Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 6 сакавіка 1987 г. № 10 (3368) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## 8 САКАВІКА — МІЖНАРОДНЫ ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ



Мастачка Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Алена ЕРАФЕЕВА.
Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

чыцца камунізму, я адказаў бы:

Рыхтаваць сябе да перабудовы, актыўна ўдзельнічаць у перабудове, узвышаць наша грамадства, узвышаць аўтарытэт Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!».

Сярод дэлегатаў з'езда — прадстаўнікі творчай моладзі рэспублікі. Адзін з іх — артыст Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы В. Манаеў.

На свой форум камсамолія рэспублікі запрасіла ганаровых гасцей. Сярод іх — Г. Бураўкін, А. Дудараў, В. Маслюк, А. Сульянаў, М. Яроменка і іншыя прадстаўнікі розных пакаленняў творчай інтэлігенцыі.

Па Леніну звяраючы крок, юнакі і дзяўчаты рэспублікі вуснамі сваіх абраннікаў выказваюць вернасць курсу партыі, курсу перабудовы.

---

На вечар памяці Пушкіна ў Дзяржаўным музеі БССР сабраліся супрацоўнікі музеяў сталіцы рэспублікі. С. Букчын расказаў пра незлічоныя ніці, якія звязваюць творчасць паэта з сучаснасцю, пра той духоўны ўрок, якім з'яўляюцца для нас пушкінская паэзія, проза, усё яго жыццё.

Вершы Пушкіна чытаў дыктар Рэспубліканскага радыё А. Віярскі. Салісты ДАВТа БССР В. Цішына, Н. Руднева, М. Рысаў выканалі рамансы рускіх кампазітараў на словы Пушкіна.

Сапраўдныя прадметы першай паловы XIX ст. з фондаў Дзяржаўнага музея БССР—мэбля, пісьмовыя прылады, кнігі, кандэлябры з запаленымі свечкамі — памаглі ўсім, хто прымаў удзел у вечары, пранікнуцца самім настроем пушкінскай эпохі.

**Ф. КАПЛАН.**

---



Пра некаторыя аспекты з жыцця Злучаных Штатаў Амерыкі змаглі даведацца тыя, хто прыйшоў у Дом літаратара на вечар з цыкла «Пісьменнік у замежнай паездцы». Удзельнік 41-ай сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый В. Казько расказаў аб рабоце гэтага міжнароднага форуму, падзяліўся сваімі ўражаннямі аб наведанні ЗША.

Фота Ул. КРУКА.

---

Па праграме тыдня роднай літаратуры і культуры ў Праўдзінскай сярэдняй школе Мінскага раёна адбылася сустрэча з кампазітарамі, лаўрэатамі прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Г. Гарэлавай і А. Рашчынскім. Іх творы выканалі народны артыст БССР Л. Гарэлік, заслужаныя артысткі рэспублікі Л. Каспорская, Л. Максімава, артыст Ю. Кандрацэнка.

Вялася гаворка аб праблемах выхавання моладзі на лепшых узорах як рускага класічнага, так і нацыянальнага мастацтва, народнай творчасці—таго, што мы можам супрацьпаставіць націску масавай буржуазнай культуры, шырспажыву.

Сустрэчу вёў мастак А. Цыркуноў.

**Я. ЦУМАРАЎ.**

---



Партрэт маці Я. Купалы — Бянігды Іванаўны Луцэвіч.



Сустрэча.

кі. І вось круты паварот у жыцці: разам з мужам, інжынерам-энергетыкам, вырашылі паехаць працаваць у вёску.

Сельская школа мастацтваў... Калгасная карцінная галерэя... Яны пакуль толькі першыя звёны ў агульнай неабходнай грамадству справе, якую робяць на сяле разам старшыня калгаса вучоны С. Шарэцкі, мастак М. Кандрацьеў, музыказнавец Л. Каробкіна... Няма сумнення, за людзьмі, якія выпраменьваюць духоўнае святло, абавязкова пойдуць іншыя энтузіясты, каб дапамагчы стварыць у калгасе музей і канцэртную залу, спартыўны комплекс і прафілакторый...

**Л. АЛЯКСЕЕВА.**
**Ул. КРУК (фота),**
**спец. карэспандэнты «ЛіМа».**



Партрэт удзельніка абароны Севастопаля ў гады Вялікай Айчыннай вайны піянера В. Волкава.

---

**АНКЕТА «ЛІМА»**

**Роля жанчыны ў любой сферы нашага жыцця стваральная і высакародная, — гаварылася на Усесаюзнай канферэнцыі жанчын, што адбылася не так даўно ў Маскве. Наша сучасніца—працаўніца і маці — усё больш актыўна ўключаецца ў кіраванне эканомікай і культурай, у абнаўленне ўсіх сфер жыцця нашай краіны. Яе духоўны патэнцыял служыць грамадству.**

**Напярэдадні Міжнароднага жаночага дня мы звярнуліся да нашых пісьменніц з наступнымі пытаннямі:**

1. Жанчына ў літаратуры. Як Вы ўяўляеце яе ролю і яе прызначэнне?

2. Якое месца займае творчая праца ў Вашым жыцці?

3. Што б Вы пажадалі сваім таварышкам па літаратуры?

**Што датычыць першага пытання, то з яго правамернасцю пісьменніцы згаджаюцца далёка не заўсёды. Як слушна зазначае ў адказе на анкету Ніна Загорская, «У літаратуры ёсць найперш ТВОРЦА». А крытык Юлія Канэ падкрэслівае, што «прыярытэтная сфера жанчын—эмацыянальная». Напэўна, з гэтай думкай варта пагадзіцца, бо яе пацвярджае ў нейкай ступені і танальнасць дасланых адказаў.**

**Дзякуем вам, дарагія жанчыны, за ўдзел у анкеце і віншуем вас са святам!**



Р. БАРАВІКОВА



Н. ЗАГОРСКАЯ



Ю. КАНЭ



С. МАРЧАНКА

# У РЫТМЕ СВАЙГО СЭРЦА



Н. МАЦЯШ



А. ПАПОВА



Л. ПАУЛІКАВА



А. СЯМЁНАВА

### Раіса БАРАВІКОВА:

1. Напэўна, усе мы чыталі кніжку Андрэ Маруа «Жорж Санд», але ці многія запомнілі, што «маленькі берыйскі горад, які знаходзіцца недалёка ад Наана, выносіў у 1830 годзе суровы прысуд Аўроры Дзюдзеван. А што мы бачым сёння ў цэнтры Ла Шатра? Статую Жорж Санд. Адрынутая грэшніца стала гонарам краю. Тыя, хто быў яе сябрамі,— жывуць у памяці, побач з ёй. А дзе ж тыя, хто ганьбаваў яе? Хто памятае іх прозвішчы і іх заганныя дабрачыннасці?»...

Я ні ў якім разе не заклікаю жанчын-пісьменніц быць «адрынутымі грэшніцамі», але хачу звярнуць увагу на тое, што вочы сучаснасці нярэдка памыляюцца, і той бляск, які цяпер здаецца нам золатам, з часам знікае...

А ўвогуле, жанчына ў літаратуры, калі яна мае сапраўдны талент,— гэта заўсёды цікава. Варта ўспомніць нядаўнюю кніжку паэзіі Веры Вярбы «Яраслаўна».

2. Яшчэ з часоў далёкага матрыярхату жанчына заўсёды была ахоўніцай сямейнага ачага, таму, напэўна, калі б зараз я сказала, што літаратура займае ў маім жыцці галоўнае месца, многія і многія скептычна пасміхнуліся б!

Застаецца сказаць адно: жыву звычайным чалавечым жыццём з усімі яго клопатамі, шчаслівымі момантамі і праблемамі. Гадую дзяцей, хачу, каб яны выраслі добрымі, працавітымі, сумленнымі людзьмі. Калі ж пішацца — пішу... Стараюся па магчымасці друкавацца, не ўхіляюся і ад грамадскіх спраў.

3. Успамінаюцца словы з артыкула Таццяны Івановай «Адкуль бярэцца шэрая літаратура» («Литературная газета», № 7). «...Пісьменнікі — зоркія, вострыя, бясстрашныя. А любімых кніг не прыбывае».

Жадаю ўсім нашым пісьменніцам кніжак, якія б сталі самымі жаданымі, самымі любімымі для чытачоў!

### Ніна ЗАГОРСКАЯ:

1. У літаратуры ёсць найперш т в о р ц а, а не жанчына ці мужчына! Галоўнае, каб была Літаратура! А стварылі яе Цётка, Леся Украінка, Саламея Нерыс, Аспазія, Сапфо альбо Янка Купала, Максім Багдановіч, Адам Міцкевіч, М. Ю. Лермантаў, А. С. Пушкін, Шэкспір, Гарацый, Эсхіл ці хто іншы — якая розніца чытачу?! Быў бы ў іх творах вялікі напал пачуццяў і ачышчальная мудрасць, якія дарылі б людзям высокую духоўнасць! І неразумнымі лічу спробы розных літаратурных класіфікатараў упарта дзяліць паэзію на сапраўдную і жаночую. Возьмем завядзёнку амаль усіх часопісаў і газет — скінуць ледзь не ўсе творы жанчын у нумар бліжэй да 8 Сакавіка: далі, ведаеце, з нагоды свята... Калі няма чаго даваць у друк — не давайце! Толькі вырашайце гэта сумленна, па-грамадзянску!

А нашы жанчыны дай бог якую ношу бяруць на свае плечы! І ў прозе, і ў паэзіі. Спрабуюць — і не без поспеху! — сілы ў драматургіі.

2. Покуць жыцця. І чорны, ад сонца да сонца, як у патомных сялян,—будзень. Незразумела толькі, чаму ў жанчын-пісьменніц суткі не ў сорак восем гадзін — тады, можа, знайшлася б гадзіна-другая і для сям'і.

3. Фізічнага і творчага здароўя! Не зайздросьнічаць! Не цягнуць метады кухоннага вырашэння спрэчак у літаратуру! Міру — самага надзейнага даху над Планетай Болю і Надзей! І светлага Мацярынства!

### Юлія КАНЭ:

1. Мне б не хацелася гаварыць пра нейкую асаблівую ролю і прызначэнне жанчыны ў літаратуры, бо такая гаворка, на маю думку, азначала б ускоснае прызнанне нашай няроўнасці ў гэтай галіне. І не так ужо важна, якое гэта прызнанне — ці то прыніжанае, ці то какетлівае, ці то фанабэрыстае: маўляў, мы жанчыны, у нас свае законы. Калі чытач бярэ ў рукі кнігу, новую ці старую, яго цікавіць не тое, якое прозвішча — жаночае ці мужчынскае — стаіць на вокладцы, а тое, як яна напісана.

Але ў той жа час было б крывадушшам не прызнаваць, што, атрымаўшы роўнасць з рук закона, жанчына з куды большымі цяжкасцямі, чым мужчына, здзяйсняе свае мастацкія здольнасці. Бо хоць становішча жанчыны ў свеце за апошнія дзесяцігоддзі змянілася непазнавальна (і, відаць, непапраўна), але яна ўсё ж застаецца жанчынай і, значыць, больш востра і больш адказна адчувае свае абавязкі перад блізкімі— бацькамі, дзецьмі, мужам. І калі ўсё ж пераступае праз іх дзеля творчасці, дык моцна пакутуе ад гэтага. Калі ж лёс «творчай» жанчыны складваецца такім чынам, што ў яе гэтых абавязкаў няма, дык і ў такім становішчы мала добрага — і для творчасці таксама. Але ўсё гэта нашы ўнутраныя праблемы, і ніякіх скідак на іх мы не маем права прасіць ні ў закона, ні ў чытачоў, ні ў выдаўцоў. Вось чаму я так не люблю, калі пішуць пра так званую «жаночую» паэзію ці «жаночую» прозу і хваляць іх, а ўсё нібыта гавораць пра нейкія адгалінаванні аматарскай творчасці.

Карацей кажучы, прызначэнне жанчын у літаратуры, на маю думку,— пісаць добра, як мага лепш.

Можна падысці да першага пытання анкеты з другога — рэальнага, практычнага боку і паглядзець, што ў жанчын атрымліваецца ў літаратуры інакш або лепш, чым у мужчын, чым вызначаецца іх творчасць (не маючы на ўвазе чыста жаночай тэматыкі). Мне здаецца, што ў літаратуры, як і ў жыцці, жанчына неяк бліжэй, можна сказаць, інтымней падыходзіць да жыцця жывога — да

(Заканчэнне на стар. 4).

# «Не даваць спакою творчаму сумленню!»



**На пытанні нашага карэспандэнта адказвае лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Кастусь КІРЭЕНКА**

**— Кастусь Ціханавіч, пісьменніку, паэту заўсёды прыемна даведацца пра чытацкую думку аб сваіх творах. Удвая прыемна, вядома, убачыць водгук на старонках друку, як, напрыклад, слова ў «ЛіМе» дацэнта інстытута замежных моў, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны І. Пладунова пра вашу новую кнігу «Надзея». У ім даецца высокая ацэнка паэме «Алёна», іншым вашым творам, зместам сваім звязаным з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Відаць, лісты ад чытачоў прыходзяць і вам асабіста. Наколькі дапамагаюць яны вам у творчасці, як уплываюць на ажыццяўленне далейшых мастакоўскіх задум?**

— Што азначаюць для кожнага паэта, пісьменніка водгукі чытачоў, крытыкі — пра гэта ўжо сказана многа і падрабязна... Я не адкрыю тут нічога новага... Але скажу, як падказвае сэрца: па-мойму, водгук чытача для паэта, пісьменніка — гэта як агнявая падтрымка таварыша на полі бою, калі гаварыць моваю франтавых часоў, якая заўсёды жыве ў маім сэрцы... Асабліва пры адчуванні, што чытач цябе зразумеў, што пачуцці яго душы зліліся з тваімі пачуццямі, яго ўяўленні пра жыццё сугучны з тымі ўяўленнямі, якія хвалююць цябе самога...

Калі ўжо вы ўспомнілі паэму «Алёна», дык я хацеў бы прывесці словы з пісьма аднаго чытача, што прыйшло ажно з далёкай Арэнбургскай вобласці. Урач Павел Яўгенавіч Кадышаў піша: «Ваша паэма «Алёна» мяне ўсхвалявала да глыбіні душы. Вельмі спадабалася праўдзівасць і жыццёвасць паэмы. Я не літаратар, я ўрач і, натуральна, у тонкасцях літаратуры не разбіраюся. Аднак мне здаецца, што такі твор літаратурнага майстэрства, якім з'яўляецца паэма «Алёна», не можа пакінуць абыякава-раўнадушным нікога. У мяне расце дачка Оля, яна вельмі любіць вершы... Хачу, каб яна вывучыла гэтую Вашу паэму на памяць... Жадаю Вам моцнага здароўя, доўгіх год плённай творчай працы, поспехаў, шчасця!..»

На маю думку, каштоўнасць для аўтара такіх ці падобных водгукаў не ў тым, што яны прыемна ўзвышаюць уласны аўтарскі гонар і нават не ў тым, што такую ацэнку можна разглядаць як знак якасці для твора... У падобных водгуках — пацвярджэнне таго, што аўтар у сваёй творчасці ідзе па правільным шляху — як у плане праўдзівасці, жыццёвасці тэм, сюжэтаў, канфліктаў, калізій, сутыкненняў думак і поглядаў, у сваёй канцэпцыі вобразаў і характараў, так і ў плане мастацкага вырашэння задумы... Бо ўсё гэта разам узятае выконвае найважную (а, магчыма, галоўную!) функцыю творчасці, калі памятаць пытанне «для каго мы пішам?», а іменна: этычнасць, этыку паводзін аўтара ў дачыненні да свайго чытача... Так, этычнасць, этыку...

Аўтар не мае права нічым (нічым!) ні прынізіць, ні зняважыць годнасць чытача; ён мае тут адно толькі права і абавязак — усёй ідэйна-мастацкай напоўненасцю сваіх твораў, творчасцю сваёй — узвялічваць чытача, узнімаць яго душу і сэрца на светлыя, жыццялюбныя, жыццесцвярджальныя ўчынкі, паводзіны, выхоўваць, умацоўваць у чытача глыбокую павагу да годнасці чалавека, да гуманістычнай мэтаскіраванасці жыцця... Аўтар — паэт, празаік — павінен бачыць у чытачы свайго спадзвіжніка, паплечніка, у рэшце рэшт сааўтара, — нічым не ніжэйшага за пісьменніка, а хутчэй — наадварот, больш дасціпнага і праніклівага, больш адказнага і чулага ў асэнсаванні асноў і прызначэння чалавечай дзейнасці, у якога пісьменніку ёсць чаму павучыцца, — інакш кажучы, праца пісьменніка павінна быць вартая чытача, г. зн. героя сённяшняга дня, сучасніка і саўдзельніка яго задум і іх ажыццяўлення... Я асабіста заўсёды толькі так ставіўся да водгукаў чытачоў і крытыкаў і да свайго пісьменніцкага абавязку ў цэлым...

**— У вашай творчасці значнае месца займае тэма вайны, ёй прысвечаны ці адзін з вашых вершаў, а таксама асобныя паэмы, у прыватнасці, тая ж «Алёна». У апошні час вы пачалі публікацыю дакументальных навел пад назвай «З аповесці вайны». Ці будзеце вы і далей закранаць гэтую тэму і ці задавальняюць вас творы беларускіх пісьменнікаў аб вайне?**

— Па-першае, я хацеў бы зрабіць адно ўдакладненне. Вайна, якую мы маем на ўвазе, была для нас не проста вайна. Для нас яна была Вялікая Айчынная вайна,—так назваў яе сам народ. Гэта была нечуваная па маштабнасці і бескампраміснасці сутычка двух класавых сіл, сістэм, светапоглядаў, светаў; вялікая бітва сацыялізму з яго ярка выяўленым за гады Савецкай улады гуманістычным, чалавекалюбным ладам жыцця за новы, прагрэсіўны ход развіцця гісторыі нашай краіны і ўсяго чалавецтва, — супраць цемрашальства і лютасці гітлераўскага фашызму з яго адкрыта аб'яўленай праграмай духоўнага і фізічнага вынішчэння ўсяго людскога ў свеце. Фашызм на справе даказаў, што ён нясе савецкаму народу і народам іншых краін чорную ноч заняволення і рабства. Бязлітасны вораг напаў на нашу Савецкую сацыялістычную Радзіму, і ваявалі супраць фашысцкіх захопнікаў, акупантаў не якіясь бязадрасныя людзі, а савецкія людзі, якія ведалі, у імя чаго ўзяліся за зброю, калі іх вымусілі на гэта, і якія ўсёй сілай сэрцаў адчувалі, як дарага ім тое, што яны абараняюць... Адсюль і той бяспрыкладны і бясконцы гераізм, мужнасць і адвага, што ўсюды спадарожнічалі ім у іх неймаверна цяжкой ратнай справе...

Мы ведаем — не перавяліся яшчэ асобы, гіпертрафічна ўпэўненыя ў сваёй «вялікасці» і «сусветнасці», якія вельмі ваяўніча імкнуцца адвергнуць, ігнараваць праўду аб сацыялістычным характары патрыятызму савецкіх людзей у непараўнальнай ні з чым барацьбе гадоў Вялікай Айчыннай вайны. Аб'яўляючы нават упамінанне аб гэтай праўдзе прапагандысцкай «палітграматай», яны стараюцца ўбіць у галовы даверлівых людзей, асабліва маладых, другую «праўду» — аб палітычнай, духоўнай безабліччнасці, безадметнасці, нават бязроднасці ўдзельнікаў вайны, адкідаючы, абыходзячы тую гістарычную ісціну, што абаронцы нашай Радзімы вучыліся ў савецкай школе, выхоўваліся на прыкладах жыцця неўміручага Леніна і яго паплечнікаў, герояў Вялікага Кастрычніка і грамадзянскай вайны, на ідэях марксізму-ленінізму, ішлі ў бой камсамольцамі, камуністамі, самаадданымі, свядомымі патрыётамі Савецкай Радзімы... Як удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, я заўсёды ўсім сэрцам пратэставаў і пратэстую супроць духоўных наркотыкаў, якія падкідалі і падкідаюць у наш бок настырныя аматары замахаў на гістарычную праўду...

Але чаму я загаварыў пра гэта, адказваючы на ваша пытанне?

Таму што, на вялікі жаль, па сумных шматгадовых назіраннях, у нашы беларускія перыядычныя і кніжныя публікацыі нярэдка ўрываліся і ўрываюцца творы «ваеннай» тэматыкі, у якіх чытач дарэмна будзе шукаць Вялікую Айчынную вайну з яе нечуванай у гісторыі гераікай, самаахвярнасцю і мужнасцю творцаў яе перамог, нашай непаўторнай, нягаснучай легендарнасці... Выводзяцца бязвольныя, мітуслівыя, прыглушаныя, без пэўнай душэўнай прапіскі персанажы, падобныя адзін на другі ў сваёй бязмэтнасці, далёкія ад характэрных рысаў часу, які яны прадстаўляюць... Не буду гаварыць пра выключэнні — чытач сам ведае выдатныя і добрыя творы нашай прозы... А вось не так даўно давялося прачытаць «пухлы», больш чым на паўтысячы кніжных старонак раман, дзе «герой», а хутчэй — проста сузіральнік падзей, — выступае перад намі не як прадстаўнік свайго гераічнага пакалення, а як непрыкаяны «пакутнік» вайны, вандруючы з аднаго раздзела рамана ў другі, бясконца калупаецца ў сваіх мяшчанскіх успамінах і перажываннях, разам з аўтарам ніяк не можа наплакацца нават аб нясытнай талерцы франтавога супа і аб іншых накшталт гэтага сваіх «цяжкасцях»... Хаця — гэты ж самы па вачах «сірата» ў сваёй абывацельскай скарзе на жыццё не забывае расказаць, як, знаходзячыся ў тылавым рэзерве, спакойненька пераспаў ноч з жонкай свайго лепшага сябра, які ў той час быў на перадавой... І ні «герой» рамана, ні аўтар яго ў палоне самаўлюбёнасці не адчуваюць, колькі цынізму ў іх інфармацыі аб такіх начах, у іхніх дробненькіх «скаргах» і «крыўдах» на фоне той найвялікшай ваеннай горычы і бяды, што перажыў наш народ, і на фоне той мужнасці і адвагі, што паказалі савецкія людзі, здабываючы цяжкую, аплачаную мільёнамі ахвяр святую нашу перамогу.

Паўстае пытанне: калі верыць аўтарам такіх і да яго падобных твораў, дык хто ж тады разграміў наймагутнейшую гітлераўскую армію знішчэння і разбою, хто выратаваў свет ад пакут фашысцкага рабства, і з кім наша Радзіма здабыла векапомную славу сваю?.. Няўжо з тымі неўрастэнікамі, ушчэрбнымі, бязвольнымі, бязмэтнымі баязліўцамі, якіх малююць асобныя аўтары?.. Ці, магчыма, такія аўтары лічаць, што, маўляў, народ і Радзіма — гэта адно, а яны са сваімі «героямі», мадэлямі, схемамі — самі па сабе?..

Я глыбока перакананы: усімі сіламі трэба ставіць заслоны фальсіфікацыі, абывацельскаму, дробнаэгаістычнаму паказу Вялікай Айчыннай вайны! У імя падрастаючых, новых пакаленняў трэба гэта рабіць!.. Трэба памятаць: недарэмна варожая прапаганда стараецца прынізіць гістарычную ролю савецкага народа ў разгроме фашызму, недарэмна ў сваёй псіхалагічнай вайне супроць савецкага народа ўсялякія пыхлівыя хлуслівыя імкнуцца ачарніць вобраз савецкага воіна, палымянага, самаадданага змагара за сацыялістычную Радзіму, за свабоду для ўсіх народаў... Усе мы не маем права забываць, што творы аб Вялікай Айчыннай вайне на цяперашнім часе ў першую чаргу ідуць да нашай моладзі, і трэба, каб яны, гэтыя творы, прыносілі ў душы юнакоў святую, свяшчэнную прагу паўтарыць жыццё лепшых сыноў Савецкай Радзімы, рабіць кожную сваю справу, раўняючыся на іх...

Нядаўна давялося пабываць у адной школе Аршанскага раёна, якая носіць імя Героя Савецкага Саюза Юрыя Смірнова. Пасля сустрэчы з вучнямі мне паказалі школьны музей Юрыя Смірнова, і я яшчэ раз упэўніўся, з якой любоўю шануюць у дзіцячых асяроддзях памяць аб героях Вялікай Айчыннай вайны! Нельга было без глыбокага сардэчнага хвалявання слухаць дзяжурных па музею васьмікласнікаў-камсамольцаў Сяргея Дарасевіча і Васіля Навуменку, калі яны гаварылі аб пакутным, але поўным жыццёвага аптымізму подзвігу героя. І нельга было не хвалявацца, бачачы, з якой руплівасцю сабрана ў невялікім школьным пакоі ўсё, што можна было паказаць пра жыццё так рана загінуўшага юнака... Такіх музеяў у нашых школах нямала... Але чаму ж сярод іх экспанатаў зусім рэдкія кнігі нашай літаратуры, дзе на ўсю веліч маляваліся б канкрэтныя вобразы герояў Вялікай Айчынай вайны?!.

Думаецца, што даўно настала пара значнай актывізацыі ў літаратуры мастацкай дакументалістыкі... Трэба, каб Праўда аб Вялікай Айчыннай вайне — а ў гэтай Праўдзе—непараўнаны Гераізм народа! — знайшла нарэшце вартае і шырокае мастацкае адлюстраванне... Прыклады таленавітага мастацкага паказу Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры ёсць, яны вядомыя, але хацелася б, каб іх было больш і больш!.. І каб галерэя выдатных вобразаў народных герояў, створаная беларускімі пісьменнікамі, шырылася і папаўнялася.

Што датычыць пытання, ці буду я закранаць гэтую тэму, то, безумоўна, адказ тут можа быць толькі адзін: так, буду!— як удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ніколі не мог і не змагу абыходзіць гэтую тэму...

**— Вы, Кастусь Ціханавіч, у паэтычнай творчасці сваёй, умоўна кажучы, традыцыяналіст. Гэта, аднак, не значыць, што вы абыходзіце ўвагай верлібр, не карыстаецеся белым вершам... Як вы лічаце — ці не з'яўляецца вобразная ўскладнёнасць, метафарычная завуаляванасць для некаторых аўтараў самамэтай, ці не прыводзіць жаданне «асучасніць» верш, паказаць сябе наймаднейшым — проста пошукамі дзеля пошукаў?.. І што вы думаеце пра стан сённяшняй беларускай паэзіі, пра размовы аб дэвальвацыі паэтычнага слова, пра тое, што зборнікамі паэзіі літаральна затаварваны кнігарні?**

— Я думаю, што з нейкага часу (калі гэта сталася, — дакладна сказаць не бяруся!) мы пачалі блытаць дзве розныя катэгорыі: паэзію і вершаскладальніцтва... Гэтак жа сама як: талент паэта і здольнасць да версіфікатарства...

Адсюль і беспадстаўная трывога пра затаваранасць ПАЭЗІЯЙ кнігарань, і размовы пра дэвальвацыю ПАЭТЫЧНАГА слова, і палемікі пра «традыцыяналізм» і «сучаснасць» верша і г. д.

Страсныя, хвалюючыя, грымотныя выбухі чалавечай душы, імклівыя, нястрымныя ўзлёты думкі чалавека, якімі б сродкамі яны ні выяўляліся — ці рыфмаванымі ці нерыфмаванымі радкамі, ці верлібрам—не могуць быць нічым іншым, як толькі ПАЭЗІЯЙ, калі яны ПАЭЗІЯ; і наадварот — як бы хто ні ўпрыгожваў, ні аздабляў свой твор, ён паэзіяй не стане, калі ў ім паэзіі няма...

А што ж такое ПАЭЗІЯ?

Давайце прыгадаем, што сказаў пра гэта вялікі крытык, прызнаны і ўсімі паэтамі, і крытыкамі, і філосафамі, і проста чытачамі...

Лепей за яго мы не скажам...

Вазьму тры мясціны.

«Поэзия — это светлое торжество бытия, это блаженство жизни, нежданно посещающее нас в редкие минуты; это упоение, трепет, мление, нега страсти, волнение и буря чувств, полнота любви, восторг наслаждения, сладость грусти, блаженство страдания, ненасытимая жажда слёз; это страстное, томительное, тоскливое порывание куда-то, в какую-то всегда обольстительную и никогда недостижимую сторону; это вечная и никогда не удовлетворимая жажда все обнять и со всем слиться; это блаженный пафос, в котором сердце наше бьется в один лад со вселенною...»

І яшчэ:

«Чем выше поэт, тем больше принадлежит он обществу. среди которого родился, тем теснее связано развитие, направление и даже характер его таланта с историческим развитием общества...»

І яшчэ:

«...всякий внешний талант, ослепляющий глаза внешней стороною искусства и выходящий не из вдохновения, а из легко воспламеняющейся натуры, так же тихо и незаметно сходит с арены, как шумно и блистательно является на нее...»

Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі... Думаю, тут усе адказы на ўсе пытанні, што нас хвалююць...

У беларускай літаратуры ёсць ПАЭЗІЯ, якая належыць свайму грамадству і вялікаму часу, што яе нараджае, паэзія мужнай барацьбы за лёс чалавецтва і трапяткой чалавечай пяшчоты і дабрыні...

Ёсць ПАЭТЫ, добрыя і розныя, якія разам з рамантычнай узнёсласцю, захапленнем красою, хараством жыцця, нясуць у сабе страсную прагу аддаць душы свае і сэрцы ў барацьбе за роднасць з гэтым жыццём, у барацьбе за яго падсонечную вечнасць...

Я мог бы назваць не аднаго з нашых паэтаў, якім даўно належаць мая пашана і любоў... Але, дазвольце мне, паколькі наша гутарка з'явіцца на старонках газеты напярэдадні 8 Сакавіка, з атрада беларускіх майстроў паэтычнага слова выдзеліць нашых паэтаў-жанчын, якія ў апошнія гады ўсё часцей і часцей прыходзяць да нас з выдатнымі ўзорамі паэтычнага майстэрства, не даючы спыніцца на дасягнутым нікому з нас, іх калег... З прыемнасцю назаву імёны: Яўгенія Янішчыц, Данута Бічэль-Загнетава, Вольга Іпатава, Таіса Бондар, Раіса Баравікова, Валянціна Коўтун, Нэла Тулупава, Валянціна Аколава, Ніна Загорская... За кожным з гэтых іменаў — багатыя самабытныя

(Працяг на стар. 6—7).

## КНІГАПІС




М. ТАНК. Глыток вады. Вершы. На літоўскай мове. Вільнюс, «Вага», 1986.

**Змест кнігі складаюць творы паэта, напісаныя ў даверасновускі і пасляверасноўскі перыяды. Даўнейшыя творы народнага паэта Беларусі дадзены ў перакладах А. Венцлавы, Э. Межэлайціса, Ю. Марцінкявічуса, А. Балтакіса, А. Хургінаса, Я. Дэгуцітэ, В. Бложэ, Е. Мацявічуса. Большую частку твораў, змешчаных у зборніку, — як даўнейшых, гэтак і нядаўніх,—пераклалі А. Жукаўскас і Э. Матузявічус.**

**«Глыток вады»—трэцяя кніга М. Танка на літоўскай мове: у 1961 г. у перакладзе групы літоўскіх паэтаў быў выпушчаны зборнік вершаў «След бліскавіцы», а ў 1969 г.—у перакладзе А. Жукаўскаса—«Лісткі календара». «Глыток вады» выйшаў у серыі «Жвайгждзінас» («Сузор'е»). Раней у гэтай серыі былі надрукаваны зборнікі Аркадзя Куляшова і Рыгора Барадуліна.**

**А. ЗАБЯРЭЗСКІ.**

## ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА УРАЖАННЕМ

# РАЗМОВА НАРОСЦЕЖ

Да гэтага я ведаў Уладзіміра Карызну толькі як паэта-песенніка. Песні на яго словы гучаць па радыё, на тэлебачанні, у канцэртных залах, на вечарах мастацкай самадзейнасці. І адкрыццём, сюрпрызам была, прызнацца, для мяне кніга паэта «Расколіна на Звоне Свабоды» (яна выйшла летась у выдавецтве «Юнацтва»). Прыцягнулі ўвагу і назва, і маляўніча афармленая вокладка, а галоўнае — тое, што аўтар выступае ў новым для яго жанры — у жанры вершаваных дарожных нататак, вершаванай публіцыстыкі: раздзел «Хвалі і таросы» і паэма «Размова наросцеж» навеяны амерыканскімі ўражаннямі, цыкл «В'етнамская балада» прысвечаны знаёмству з краінай Хо Шы Міна. Калі пачынаў чытаць, то, шчыра кажучы, лавіў сябе на думцы: ці знойдзе сябе паэт у новым для яго жанры? Ці справіцца з тэмай, якая ў кампетэнцыі, можа, толькі журналістаў-міжнароднікаў?

І вось кніга прачытана. З цікавасцю. І атрыманы адказ: публіцыстычны жанр у асноўным пад сілу паэту-песенніку. Больш таго: як мне здаецца, адно тут спрыяе другому, схільнасць да песеннага лірызму дапамагае аўтару паўней выказаць свае пачуцці ад сустрэчы з замежнымі сябрамі.

**Закружыцца**
**Ад шчасця**
**Галава,**
**І заспяваем**
**Песню мы «Лясную»,**
**І тыя,**
**Што ў баях**
**Навек паснулі,**
**Пачуюць нас**
**І будуць**
**Падпяваць...**

Гэта радкі з верша «В'етнамскім сябрам».

Іншае гучанне набываюць старонкі зборніка, калі размова заходзіць пра амерыканскія ўражанні, пра «адлегласць між берагамі нашых душ». Тут я вылучыў бы цэнтральны, па-мойму, твор зборніка, паэму «Размова наросцеж», якая заканчваецца трывожным надзённым акордам:

**Не ранеты —**
**ракеты вы росціце.**
**На граніцах,**
**На сэрцах —**
**таросамі лёд...**
**Містэр,**
**гавару я з вамі наросцеж,**
**Каб пачуў мяне**
**За акіянам народ.**

Паэма У. Карызны папярэджвае, заклікае да змагання за мір, наводзіць на роздум пра тое, як адольваць «адлегласць між берагамі нашых душ». Сапраўды, як усё мяняецца! Амерыканскія салдаты не ведалі рускай мовы, а мы англійскай, і тым не менш мы знаходзілі агульную мову з імі. Я бачыў іх у Берліне ў 1945 годзе. Стройныя, чыста апранутыя, у чаравіках на тоўстай падэшве. Такія ж чаравікі былі і ў мяне на нагах. Нам іх пастаўлялі па лендлізу. Нашы саюзнікі былі добразычлівымі хлопцамі (праўда, тут жа рабілі і бізнес: прапаноўвалі за акупацыйныя маркі гадзіннікі, цыгарэты і іншыя заморскія «дзівы»). То былі салдаты Рузвельта. Але вось у Белы дом уехаў без выбараў, на канстытуцыйным коніку Трумэн, і становішча на нашых вачах змянілася: добрыя хлопцы-франтавікі былі заменены вышколенымі антысаветчыкамі. Цёмныя сілы ўзнялі галаву і кінуліся ў бой супраць учарашніх саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Менавіта з гэтымі сіламі, з «пентагонаўскай Амерыкай» і вядзе палеміку У. Карызна ў сваёй паэме. Адкрытым, што называецца, тэкстам вядзе ён размову з «нашчадкам містэра Найта» і ўсімі тымі, хто

**Крычыць аб нашай пагрозе,**
**А нам рыхтуе атамны вір.**
**Словы ажно**
**прабіраюць марозам**
**Пра «рэчы,**
**важныя болей,**
**чым мір».**

Бачыць паэт у ЗША і другія сілы, тых, хто разумее, да чаго можа давесці гонка ўзбраенняў, хто выступае за мірнае супрацоўніцтва з нашай краінай. Пра сустрэчу з такімі амерыканцамі расказваецца ў вершы «На мітынгу». Рабочы люд Дэтройта «прыйшоў паслухаць праўду — паслухаць нас». Сустрэча канчаецца кранальным момантам: у адказ на нейчае злоснае шыпенне адзін рабочы ўзяў слова і дастаў з-за пазухі гвардзейскі знак, падораны яму савецкім салдатам на Эльбе. Дастаў і сказаў:

**Яго**
**вам**
**уручаю,**
**Хай вернецца дамоў...**
**І ўсе нас абдымалі**
**Замест прамоў.**

Мы былі сведкамі стаўшых ужо традыцыйнымі тэлемастоў паміж савецкімі людзьмі і амерыканцамі. Масты паміж двума «берагамі» заклікаlittle праклaдваць і пісьменнікі, аб чым, дарэчы, гаварылася на нядаўнім міжнародным форуме ў Маскве. У святле гэтай надзённай патрэбы і варта, я думаю, ацэньваць кнігі, накшталт «Расколіны на Звоне Свабоды».

**І. ПЛАДУНОЎ,**
**дацэнт інстытута замежных моў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**

# УСПАМІНАЕЦЦА ДЗЯЦІНСТВА

Нядаўна выйшла ў свет кніжачка для дзяцей Міколы Янчанкі «Залаты вулей». Разам з сваімі вершамі ў нашу хату і ў нашу сям'ю ўвайшоў і сам пісьменнік. Гэта, відаць, чалавек з добрым і чулым сэрцам. А інакш і не можа быць.

Калі чытаеш вершы Міколы Янчанкі, успамінаецца дзяцінства, якое крочыць разам з намі праз усё жыццё. У нашай сям'і пяцёра дзяцей. Няма таго дня, каб у нашай хаце не гучалі вершы.

Хачу сказаць яшчэ вось што: ці не малым тыражом выдадзены «Залаты вулей»? Бо жадаючых набыць кніжку многа, а ў магазінах яе няма.

**Ю. БРАДУНОВА,**
**рабочая хлебазавода.**

г. Рагачоў.

# «Не даваць спакою творчаму сумленню!»

**(Працяг. Пачатак на стар. 5).**

здабыткі і, безумоўна, — яшчэ прыгажэйшая творчая будучыня...

Баяцца, трывожыцца за лёс нашай ПАЭЗІІ, паэтаў, мне думаецца, падстаў няма...

Але праблема ў нас ёсць... Яна павінна, па-мойму, вырашацца ў аддзелах рэдакцый часопісаў і газет, у нашых выдавецтвах... Гэтую праблему можна назваць праблемай вершаскладальнікаў і версіфікатараў, якіх у век суцэльнай пісьменнасці, высокай адукаванасці з'яўляецца ўсё больш і больш... Адзначаную праблему, як я думаю, можна вырашаць паглыбленнем працы з аўтарамі, больш старанным, уважлівым, патрабавальным адборам твораў у друк...

**— Улюбёны ў паэзію, вы, безумоўна, не маглі і не можаце не цікавіцца творчасцю маладых паэтаў... Што вы маглі б сказаць пра нашу маладую паэзію і параіць маладым? Хто найбольш, з вашага пункту гледжання, цікавы, так сказаць, па духу блізкі вам?..**

— Творчасцю маладых паэтаў я цікаўлюся з таго самага дня, калі пачаў адчуваць сябе ўсхваляваным удзельнікам вялікага няўрымслівага пошуку чароўнага паэтычнага слова... І да сённяшняга дня — калі бяру ў рукі часопіс, ці газету, ці кнігу, дзе змешчаны вершы розных паэтаў, то ў першую чаргу пачынаю чытаць вершы маладых... Радасна прывітаць з'яўленне новага паэта, заўважыць знойдзенае ім трапнае слова, перажыць разам з ім яго хваляванне...

Але мне хочацца паспрачацца з вамі аб азначэнні — «маладая паэзія»... Ці правамерны гэты назоў — «маладая паэзія»? Што гэта такое —«маладая паэзія»? Творчасць пачынаючых ці іншае?.. А паэзія Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Шаўчэнкі, Цютчава, Блока, Маякоўскага, Ясеніна, Пастарнака, Твардоўскага, Купалы, Коласа, — якая яна? «Старая»? Не, яна вечна маладая і вечна па-сталаму мудрая, бо яна — ПАЭЗІЯ... Паэзію нельга дзяліць па ўзроставых адзнаках... Лермантаву было дваццаць сем год, а Пушкіну — трыццаць восьмы, калі яны загінулі... А чалавецтву засталася ад іх геніяльная спадчына, роўнай якой мала ёсць у свеце... Чароўны пясняр Расіі Ясенін усю сваю лірыку стварыў да дваццаці пяці гадоў жыцця... І наш Максім Багдановіч у дваццаць шэсць год ужо выканаў сваю гістарычную місію перад Бацькаўшчынай... Але найвыдатнейшы Цютчаў свой другі зборнік лірыкі выпусціў у свет у пару свайго шасцідзесяціпяцігоддзя. Вялікі рускі байкапісец Крылоў першыя байкі апублікаваў амаль у саракагадовым узросце. І непараўнаны Кандрат Крапіва і ў дзевяноста гадоў жыцця парадаваў такімі фельетонамі і байкамі, якім любы можа пазайздросціць...

Калі зазірнуць далей у гісторыю, дык убачым: лірыка і санеты Петраркі хвалявалі сэрцы яго сучаснікаў і ў пару маладосці паэта, і ў пару яго глыбокай жыццёвай сталасці. І тое ж — у нашага сучасніка Пастарнака: заваяваўшы папулярнасць як абраннік ПАЭЗІІ ў гады маладосці, ён і за год да свайго сямідзесяцігоддзя парадаваў чытача цыклам выдатных вершаў... І тое ж было ў Шэкспіра, Камоэнса, Гётэ, Шылера, Байрана, Гейнэ, Шаўчэнкі, Някрасава, Уітмена, Блока, Маякоўскага, Купалы, Коласа і іншых светачаў сусветнай паэтычнай культуры...

Пра што гэта можа сведчыць?

Гэта можа сведчыць толькі пра адно: чалавек, які адчуў, што ў сэрцы яго загаварыла «нейкая магутная сіла, нейкая непераможная страсць» (В. Р. Бялінскі), што кінула яго на подзвіг паэтычнай творчасці, — які б ні быў у яго ўзрост, ні на момант не павінен забываць: ён пераступае парог у ПАЭЗІЮ... У ПАЭЗІЮ, дзе кожны творца бярэ на сябе аднолькавую з усімі творцамі адказнасць—на ўсё жыццё, да апошняга дыхання... У ПАЭЗІЮ, дзе для ўсіх нас гучаць галасы і вялікіх, слаўных папярэднікаў, і слынных сучаснікаў, розныя па сіле, узнёсласці, па пафасу свайму, але ў якіх аднолькава чуецца, любасць да лёсу, да прызначэння паэта, жыве боль і радасць за гістарычнае асяроддзе, дзе паэтычны талент нарадзіўся і ўзрос, за час, які стаў для паэта часам яго творчага выяўлення... І малады паэт ад першага свайго слова павінен імкнуцца быць вартым сваіх папярэднікаў, стаць родным, сваім у гэтай садружнасці песняроў...

Але ж фактар маладосці ёсць? — скажаце вы... — Так, ёсць, хто ж можа адмаўляць і магутны, і прывабны фактар маладосці! Безумоўна, ёсць!.. Але фактар гэты не для таго, каб выдзяляцца ў асобную эліту і нейкі час пакрасавацца сабой... Бо маладосць, як вядома, вельмі хутка праходзіць... А для таго, каб з адважнай смеласцю, настойлівасцю і ўпартасцю, на якія здольна маладосць, шукаць і шукаць сваё майстэрства, сваю адметную якасць, стыль, свой індывідуальны, самабытны голас, які мог бы або загучаць нароўні або нечым дапоўніць галасы, якія ўжо ЁСЦЬ У ПАЭЗІІ...

Мне ўяўляецца, што некаторымі сваімі разважаннямі я ўжо даў асобныя парады маладым сваім сябрам, з гэткай жа сардэчнасцю, як раіў бы і самому сабе... Ды так яно і ёсць — я ўсё сказаў ад сэрца: як усё жыццё сам думаў і рабіў, так і сказаў... Ну, а наконт парад маладым — як ім пісаць, — гэта справа вельмі далікатная і, я б сказаў, занятак небяспечны... Па маім глыбокім перакананні, малады паэт павінен знайсці сябе сам... Ён абавязкова павінен мець сваю тэму, тэму ўсяго творчага жыцця, гэта значыць, сваёй творчай натуры, індывідуальнасці, свайго ўспрымання свету; у яго абавязкова павінна быць свая творчая пазіцыя (цвёрдая і непахісная!), ён павінен сам востра адчуваць сваё асабістае творчае дыханне, — яно ёсць, — як дыханне ў грудзях чалавека, так і дыханне ў пачуццях, думках, лятунках, задумах, у поглядах на кожную з'яву, якой жыве свет...

Але ж кожны малады паэт— гэта ў першую чаргу чалавек, член таварыства людзей, грамадзянін... І як грамадзянін грамадзяніну я скажу свайму маладому калегу, паплечніку і сябру, што найпершая якасць па маім перакананні, без якой нельга па-сапраўднаму, па-сумленнаму пражыць ні грамадзянскае, ні творчае жыццё, гэта — сціпласць... Ён ніколі не можа дазволіць сабе ўпадабняцца розным «напалеончыкам», у якіх таленту вельмі і вельмі бракуе, а пыхі і самаўпэўненасці — аж да неба; якія многа хітруюць і мітусяцца, дзе толькі могуць — сябе напаказ выстаўляюць, і адкрыта, а — часцей — таемна; штосьці недзе для сябе выбіваюць, здабываюць, салодкімі слоўкамі заклікаюць няўпэўненых у свае інтрыжкі, самі сябе пнуць на п'едэсталы і г. д., і г. д...

Сціпласцю, як і ўсе маральна здаровыя людзі, малады паэт будзе здольны ўратаваць сябе ад спакусы лёгкага, але нетрывалага, уяўнага поспеху, ад нізкапробнага моднічання, ад здраднасці ад сваіх паплечнікаў, ад любой праявы, якая грунтуецца не на шчырай дзейнасці і таму можа прынізіць, а то і скалечыць душу... Другая найабавязковая якасць — прага да працы... Праца, праца і праца, пошук, пошук і пошук! — ад першага радка да апошняга, праз усё жыццё!—толькі так і не інакш!... Літаратуры трэба аддаваць усе сілы, увесь час, усе здольнасці, абы-як, мімаходзь на яе працаваць — вялікі грэх, якога не ўдавалася яшчэ замаліць нікому і нічым... І трэцяя — вера ў свае сілы, у самога сябе... Не самаўпэўненасць, не ганарлівая фанабэрыстасць, не зазнайства, а іменна — вера; вера ў тое, што ты абраў для сябе шлях правільны, няхай сабе хоць і нялёгкі, цяжкі, але варты тваёй юнацкай мары; вера ў сваю творчую пазіцыю, у свой зрок, сваё пачуццё дружбы і таварыства, сваё дыханне, пра якое я ўжо гаварыў вышэй. Такая вера не бывае без ідэі жыцця, і таму — кожнаму чалавеку, а маладому — тым больш, — патрэбна гартаваць у сабе ідэю, якой адной варта служыць цэлы век... У ідэі жыцця закладзена і безадмоўная, душэўная патрэба, гарачая

НАШЫ ГОСЦІ

Ніна БРАДЭРЛОВА:

# «МЯНЕ ЦІКАВІЦЬ БЕЛАРУСКАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА»



ЗНАЕМСТВА адбылося ў рэдакцыі нашага штотыднёвіка. Госця з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, прыемная маладжавая жанчына, прадставілася па-руску: «Доктар Брадэрлова». Адразу ўразіла бездакорнае, без акцэнту вымаўленне. Высветлілася, што навуковы супрацоўнік секцыі славістыкі-англістыкі Патсдамскага педагагічнага інстытута імя Карла Лібкнехта Ніна Фёдараўна Брадэрлова родам з Беларусі — нарадзілася ў Мінску за два гады да вайны. У маленстве спазнала, што такое фашызм. («Калі чытаю раман Канстанціна Сіманава «Жывыя і мёртвыя», — прызнаецца Ніна Фёдараўна, — не пакідае ўражанне, што гэта ўсё напісана са слоў маёй маці»).

Лёс склаўся так, што пасля таго, як выйшла замуж, пераехала ў Патсдам, пачала працаваць у мясцовым педагагічным інстытуце. Чытае курс краіназнаўства, гісторыі СССР і адначасова праводзіць са студэнтамі практычныя заняткі, даследуе беларускую дзіцячую літаратуру. У Беларусь прыехала па запрашэнні Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, каб выступіць з паведамленнем аб прапагандзе беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва ў ГДР (на матэрыяле творчасці М. Лынькова).

— Вы не ўпершыню ў Мінску?

— Патсдам і Мінск — гарады-пабрацімы, а гэта значыць, што паміж імі існуюць цесныя кантакты, развіваюцца культурныя і літаратурныя ўзаемасувязі...

— Вы кажаце, што займаецеся нашай дзіцячай літаратурай... Мабыць, асабіста знаёмы, сустракаецеся з некаторымі яе прадстаўнікамі?

— Знаёма са Станіславам Пятровічам Шушкевічам. Яго расказы, кнігі шмат дапамаглі мне пры вывучэнні гісторыі беларускай дзіцячай літаратуры. Карыстаючыся выпадкам, не магу не сказаць удзячнае слова маім добрым знаёмым, сябрам Івану Навуменку, Эсфір Гурэвіч, Антону Семяновічу, загадчыку кафедры замежнай мовы пединстытута, дацэнту Валянціне Малевіч, даследчыкам літаратуры Марыі Шаўлоўскай, Маргарыце Яфімавай — усім, хто дапамагае і дапамагае і асабістымі парадамі, і кнігамі ў вывучэнні беларускай дзіцячай літаратуры.

— Што, калі не сакрэт, падштурхнула вас на цікавасць да беларускай дзіцячай літаратуры?

— Ініцыятыва зыходзіць ад прафесара Вольфганга Бусовіца, загадчыка кафедры савецкай літаратуры і адначасова кіраўніка секцыі славістыкі... У адзін цудоўны дзень ён прапанаваў мне працаваць над кандыдацкай дысертацыяй на тэму «Важнейшыя гістарычныя этапы развіцця Беларусі ў мастацкім увасабленні беларускай прозы для дзяцей і юнацтва апошніх двух дзесяцігоддзяў», якую, дарэчы, я абараніла ў 1985 годзе. Зварот да гэтай тэмы невыпадковы. У Патсдамскім педагагічным інстытуце вывучаецца курс савецкай дзіцячай літаратуры, а ў ім, у прыватнасці, разглядаецца і творчасць беларускіх пісьменнікаў. Напрыклад, Міхася Лынькова, Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч і іншых. Усе творы, якія неабходны былі для работы, прачытала ў арыгінале. Скажу без перабольшання, гэта асалода адчуваць вабнасць беларускага слова, асабліва, калі знаёмішся з творамі прызнаных майстроў.

— Якія вашы далейшыя планы? На сучасным этапе літаратурныя і ў цэлым культурныя сувязі беларускага народа з іншымі народамі ўступаюць у якасна новы этап. Павялічваецца колькасць перакладаў, прытым з моў арыгінала, у некаторых краінах абараняюцца кандыдацкія дысертацыі — у тым ліку вось і ваша — па пытаннях развіцця беларускай літаратуры. У далейшым, відаць, у гэтым кірунку змаглі б нямала зрабіць і вашы сённяшнія студэнты, калі б іх па-сапраўднаму зацікавіць, скажам, беларускай дзіцячай літаратурай?

— Аб гэтым мы не забываем у сваёй выкладчыцкай дзейнасці. У бліжэйшых нашых планах, напрыклад, складанне на нямецкай мове хрэстаматыі па беларускай мове для дзяцей і юнацтва. Мяркуем у яе ўключыць не толькі творы дзіцячых пісьменнікаў, а і паасобныя ўзоры «дарослай» літаратуры, найперш тыя, якія тэматычна закранаюць тэму маленства, раскрываюць унутраны свет дзяцей. Мяркуем дастаткова поўна прадставіць як класіку, так і сучасную літаратуру. Па магчымасці, уключым і асобныя паэтычныя творы. Але тут ёсць свае цяжкасці...

— У чым яны заключаюцца? У цяжкасці перакладу?

— Так, але, думаю, гэтыя цяжкасці мы пераадолеем. Нам важна зацікавіць студэнтаў беларускай літаратурай для дзяцей і юнацтва, каб потым паасобныя з іх, магчыма, пачалі вывучаць і беларускую мову. Будзем адбіраць лепшыя з перакладаў, выкананых раней.

— Творы беларускіх пісьменнікаў у ГДР у цэлым прадстаўлены няблага...

— Штосьці возьмем з анталогіі беларускай прозы «Буслы над балотамі», з беларускага нумара часопіса «Советская литература» на нямецкай мове. І, вядома ж, урыўкі з кніг асобных аўтараў. Падрыхтуем адпаведны каментарый, метадычныя распрацоўкі, каб хрэстаматыя стала і добрым вучэбным дапаможнікам для студэнтаў.

Толькі супрацоўніцтва не на словах, а на справе, сказала ў заключэнне Н. Брадэрлова, можа прынесці ўзаемную карысць. Падобныя кантакты асабліва важныя цяпер, калі чалавецтва ўступіла ў важную эпоху свайго развіцця, калі вельмі патрэбна ўзаемаразуменне паміж народамі, паміж іх культурамі.

**Наш кар.**

---

неабходнасць грамадзянскай, грамадскай актыўнасці. Бо наша ідэя — гэта ідэя актыўнага высакароднага ўплыву на ўсе працэсы чалавечай дзейнасці з адной вялікай мэтай — дасягненне вышыняў чалавечага шчасця... Хіба ж не да гэтага заўсёды імкнулася і ПАЭЗІЯ?..

Вы пыталі, хто мне з маладых блізкі па духу, вось я і сказаў вам, з якімі якасцямі людзей лічыў і лічу сваімі надзейнымі сябрамі па творчаму строю... Я ўсюды сэрцам з імі, яны ў нашай літаратуры ёсць...

**— Цяпер, калі ў жыцці краіны, усяго савецкага народа адбываюцца важныя пазітыўныя змены, перабудова ўсіх сфер жыцця з мэтай паскарэння нашага руху наперад, — што, на вашу думку, новага мы маем права чакаць у рабоце нашай творчай арганізацыі — Саюза пісьменнікаў? І як вы «прымерваеце» патрабаванне жыцця і часу да сябе?**

— Гэта вы правільна пытаеце — як я «прымерваю» патрабаванні жыцця і часу да сябе... Рашэнні XXVII з'езда КПСС, выступленні Генеральнага сакратара ЦК нашай партыі Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, іншых кіраўнікоў партыі і ўрада ўвесь час настройваюць імення на такую пастаноўку пытання: як кожны з нас асабіста, канкрэтна мяркуе ўдзельнічаць у вялікай справе перабудовы і паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны... Перабудова — справа ўсіх і кожнага, — такі сцвярджальны лейтматыў гучаў на студзеньскім Пленуме ЦК КПСС.

Які мой адказ на гэта?.. Мяркую ў свае творчыя планы ўнесці такія карэктывы, якія б далі магчымасць быць бліжэй да падзей часу, — ну, напрыклад, спадзяюся больш увагі аддаваць публіцыстыцы. Хочацца часцей, чым дагэтуль, сустракацца з чытачамі... Ну, і, безумоўна, ускладаю надзеі на актывізацыю паэтычнай працы...

Што датычыць вашага пытання — чаго новага мы маем права чакаць у рабоце пісьменніцкай арганізацыі — дык зноў жа адзначу, што ўсё галоўным чынам залежыць ад нас саміх: як кожны пісьменнік будзе ставіцца да ўсенароднай справы — перабудовы... На мой погляд, у першую чаргу нам трэба павысіць грамадскую значнасць нашых сустрэч, сходаў, канферэнцый, сімпозіумаў, усіх форумаў, — трэба адмовіцца ад практыкі вынясення на сходы асабістых крыўдаў, скаргаў, дробных, часам зусім нікчэмненькіх, сутычак, сварак і г.д. А замест гэтага — аддаваць час глыбокаму, партыйнаму разгляду пытанняў і праблем літаратурнага працэсу, нашага ўдзелу ў жыцці краіны, — як і належыць прадстаўнікам культурнай інтэлігенцыі... Тым болей, што крыўдаваць і скардзіцца ў пісьменнікаў няма прычын і падстаў. Вялікія клопаты партыі і ўрада аб развіцці літаратуры і мастацтва, аб умовах працоўнай дзейнасці кожнага з нас могуць, я лічу, выклікаць з нашага боку толькі адну трывогу: а ці ўсё мы робім, каб адказ наш на гэтыя клопаты быў варты іх...

Па-другое, пара ўрэшце нам у Саюзе пісьменнікаў зразумець: нельга так бясконца хваліць самых сябе... Адзін за адным фотаздымкі і фотарэпартажы, хвалебныя інфармацыі, лісліўвыя, алілуйскія артыкулы і г.д., і г.д. ... Што ні зробіцца — адразу ў кут, на ікону... А самазадаволенасць, пыхлівасць, як вядома, ніколі не былі рухавікамі прагрэсу.

І трэцяе... Як мне здаецца, не лішне пажадаць, каб атмасфера Саюза пісьменнікаў была багацейшая на дружбу, узаемапавагу, таварыскасць, спагадлівасць, дабрату... Як мага менш карыслівага, эгаістычнага саперніцтва і больш светлага творчага спаборніцтва!.. Менш нікчэмнага самавыхвалення і пазёрства і больш гарачага імкнення праявіць свае здольнасці на карысць грамадства!..

У пастанове студзеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС «Аб перабудове і кадравай палітыцы партыі» гаворыцца: «Адказныя задачы ўскладаюцца на ідэалагічных работнікаў, закліканых несці ідэі, палітыку партыі ў масы, узбройваць іх разуменнем гістарычнай неабходнасці перабудовы, дапамагаць кожнаму чалавеку знаходзіць сваё месца ў агульнанароднай барацьбе за паскарэнне...» Лічу, што гэтае ўказанне ЦК нашай партыі непасрэдна адрасавана нам, савецкім пісьменнікам, аднаму з найбольш дзейсных атрадаў ідэалагічнай работы... У штодзённым нашым жыцці, працы сваёй мы не маем права даваць спакою свайму творчаму сумленню... Пытанне *«а што ты робіш, каб дапамагчы партыі, народу ў іх вялікіх рэвалюцыйных намаганнях?»* — павінна быць безумоўным пытаннем нашай адказнасці перад часам...

**— Кожны літаратар павінен добра ведаць, што адбываецца ў грамадстве, а гэта вымагае больш цесных кантактаў з людзьмі, працоўнымі калектывамі... У гэтым сэнсе ў вас ёсць свае «перавагі», магчымасці. Вы з'яўляецеся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, сустракаецеся са сваімі выбаршчыкамі, выслухоўваеце іх скаргі, просьбы, прапановы. Што б вы маглі пра гэтыя сустрэчы сказаць? Як яны ўзбагачаюць вас як пісьменніка?**

— Для мяне кожны раз сустрэчы з выбаршчыкамі — гэта новы ўрок жыцця, новая ступень у яго пазнанні. Бо кожны раз спатканне з людзьмі прыносіць нешта нечаканае — для папаўнення жыццёвых назіранняў, для душы, для сэрца. А яшчэ — усё новы і новы напамінак пра тое, хто ты і для чаго, што нельга заседжвацца, трэба часцей ісці да іх — нязменна шчырых і добрых, чулых і спагадлівых, мацаваць супольнасць з іх вялікім і шчодрым духоўным багаццем...

І заўсёды пасля кожнай сустрэчы — такім асветленым вяртаешся за пісьменніцкі стол...

Хіба гэта мала для пісьменніка?..

За дні сваёй дэпутацкай работы я зрабіў для сябе такое важнае і радаснае адкрыццё, якое, мусіць, ніколі б да мяне не дайшло так яскрава, каб не ўбачыў гэта на практыцы. І хачу гэтым адкрыццём падзяліцца з усімі... А іменна: як не адкладна, без аніякіх затрымак, дакладна-абавязкова вырашаюць пытанні аб запытах працоўных Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, Савет Міністраў рэспублікі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета... Гэта навука, і якая прыемная навука!

Прывяду прыклад. 29 лістапада мінулага года я сустрэўся з выбаршчыкамі сваёй акругі... Ішла гаворка аб самых злабадзённых праблемах сённяшніх дзён... У выступленнях выбаршчыкаў гучала гарачае ўхваленне дзейнасці нашай партыі і ўрада, у прыватнасці, практыка сустрэч Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова і другіх кіраўнікоў з савецкімі людзьмі, няспынныя захады партыі і ўрада аб далейшым, усё больш поўным задавальненні сацыяльных патрэб народа... Разам з тым былі выказаны асобныя пажаданні і наказы.

У прыватнасці — выбаршчыкі звярнуліся да дэпутата з наказам паставіць пытанне аб будаўніцтве для гарадскога пасёлка Арэхаўска 80-кватэрнага жыллёвага дома.

Вярнуўшыся ў Мінск, я напісаў пра гэты наказ пісьмо Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаілу Васільевічу Кавалёву. Пісьмо паслаў 2 снежня 1986 года. І ўявіце — не прайшло і дваццаці дзён, як я атрымаў адказ, які расхваляваў мяне літаральна да глыбіні душы... Вось ён, гэты адказ. «Дэ-

(Заканчэнне на стар. 10—11).

---

ВІНШУЕМ

## Міхалу ДУБЯНЕЦКАМУ—60



4 сакавіка споўнілася 60 год з дня нараджэння перакладчыка Міхала Дубянецкага. Праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Міхаіл Фёдаравіч!**

**Горача віншуем Вас, таленавітага перакладчыка мастацкай літаратуры, з 60-годдзем з дня нараджэння.**

**Свой працоўны шлях Вы пачалі ў першыя пасляваенныя гады настаўнікам пачатковых класаў на Піншчыне. Пасля працавалі прапагандыстам, загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі райкома партыі. З 1958 года Ваша жыццё звязана непасрэдна з друкам. Намеснік рэдактара ганцавіцкай раённай газеты «Сялянская праўда», рэдактар выдавецтва «Беларусь», загадчык рэдакцыі, галоўны рэдактар выдавецтва «Ураджай», інструктар сектара друку ЦК КПБ, адказны сакратар—намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» — такі Ваш працоўны шлях.**

**З 1964 года Вы плённа працуеце ў галіне мастацкага перакладу. На Вашым творчым рахунку пераклады твораў: «Жыві і помні» В. Распуціна, «Гэта дзіўнае жыццё» Д. Граніна, «Блакадная кніга» А. Адамовіча і Д. Граніна, «Клімко» Г. Цюцюнніка, «Верная рака» С. Жэромскага, паасобных апавяданняў рускіх, украінскіх і польскіх аўтараў. Вашы пераклады вызначаюцца глыбокім пранікненнем у ідэйную сутнасць арыгінала, дакладнасцю ў захаванні яго мастацкіх асаблівасцей, выразнасцю слова.**

**Жадаем Вам, дарагі Міхаіл Фёдаравіч, добрага здароўя, шчасця, новых творчых поспехаў».**

## Пятру ЛІСІЦЫНУ—60



9 сакавіка спаўняецца 60 год з дня нараджэння пісьменніка Пятра Лісіцына. У адрасе СП БССР, у прыватнасці, гаворыцца:

**«Дарагі Пётр Сцяпанавіч!**

**Шчыра вітаем Вас з 60-гадовым юбілеем. Вы з таго арлінага камсамольскага племені, што адважна ўступіла ў смяротную схватку з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны. Пятнаццацігадовым падлеткам Вы сталі байцом вядомай на ўсю Беларусь брыгады «Няўлоўныя».**

**Радзіма высока адзначыла подзвігі, здзейсненыя ў юнацтве, узнагародзіўшы Вас ордэнам Леніна, ордэнам Айчыннай вайны І ступені, многімі медалямі. Урад Польскай Народнай Рэспублікі ўзнагародзіў Вас «Крыжам партызанскім».**

**Пасля вайны, скончыўшы Латвійскі дзяржаўны універсітэт, Вы працавалі ў народнай гаспадарцы на многіх адказных пасадах.**

**Вы пішаце пра тое, што найбольш ведаеце. У аснове апавяданняў і асабліва аповесцей, такіх, як «Февральский наст», «К полнолунию», «На хуторе», — яркія ўражанні незабыўных ваенных гадоў. З неаслабнай увагай чытаюцца Вашы кнігі «Росныя травы», «Трое разных» і іншыя.**

**Жадаем Вам, дарагі Пётр Сцяпанавіч, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця, новых творчых здабыткаў».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка шчыра далучаюцца да гэтых віншаванняў.

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# Не будзь абыякавым, ЧАЛАВЕК!

Працэс ачышчэння ва ўсіх галінах нашага жыцця моцна кранае душы, будзіць сумленне кожнага з нас. Вось чаму мы ўсім сэрцам успрынялі рашэнні дваццаць сёмага з'езда КПСС, студзеньскага (1987 г.) Пленума ЦК партыі.

Час, у які мы жывём, вымагае ад кожнага грамадзяніна Савецкай краіны ўзорнай дысцыпліны і парадку, адказнасці не толькі за свае, але і чужыя дзеянні.

Цяпер з выключнай сілай адчуваеш магутную еднасць агульнага і асабістага ў нашым грамадстве.

На маю думку, адной з вельмі старых і закаранелых нашых хвароб з'яўляецца абыякавасць. Абыякавасць — гэта стан поўнага раўнадушша. Чалавек, хворы на абыякавасць, пазбаўлены адказнасці і інтарэсу да жыццёвых праяў, да самага простага і самага істотнага ў сучасных буднях.

І самае, бадай, распаўсюджанае сярод абыякавых людзей—гэта поўнае нежаданне браць на сябе бо́льшы абавязак, бо́льшую частку працы, бо́льшую адказнасць.

Абыякавы чалавек не хоча сябе абцяжарваць нават у дробязях. Ён не выключыць электрычную лямпачку, калі яна гарыць без патрэбы, не прыкрые кранік, з якога цурчыць вада, не прыбярэ трэску ці шматок паперы ў ліфце.

Абыякавасць—родная сястра свайму брату - бюракратызму. Там, дзе рабочы, службовец, навуковец глядзяць раўнадушнымі вачамі, не будзе парадку, не будзе павагі да чалавека.

Колькі шкоды нанесла абыякавасць нашаму грамадству! Абыякаваму работніку ўсё роўна, якую прадукцыю ён выпускае, неабыякавы ён толькі да заробку.

Абыякавы будаўнік спяшаецца здаць аб'ект, не звяртаючы ўвагі на якасць, на недаробкі. Абы з рук збыць—з'ява, народжаная бюракратам і абыякавым кіраўніком, чалавекам, які не паважае сваю прафесію, забывае пра свой гонар, свой абавязак перад грамадствам. У такіх людзей адсутнічае пачуццё сораму, маўчыць сумленне.

Мяне, старога чалавека і пісьменніка, вельмі хвалюе тое, што абыякавасць у нас вельмі распаўсюджана. Што яна пранікла ці не паўсюдна. І ў прамысловасць, і ў сельскую гаспадарку, у культуру і навуку. Чаму ў нас дагэтуль адстае сельская гаспадарка? Неспрыяльны клімат, дрэнныя землі? Не, у асноўным вінавата наша дрэннае гаспадаранне — на авось рыхтуецца насенне, са спазненнем сеюць і ўбіраюць ураджай. Часта тая абыякавасць прымае аблічча ўяўных спакою і дзелавітасці, маўляў, мы ўсё разумеем, усё будзе зроблена.

Мы — дзяржава працы, працы натхнёнай. І як тут не ўспомніць выказванне вялікага рускага публіцыста Дзмітрыя Іванавіча Пісарава: «Праца складае самую моцную і надзённую сувязь паміж тым чалавекам, які працуе, і тым грамадствам, на карысць якога накіравана гэта праца».

Выдатна сказана, і варта кожнаму з нас гэта ўзяць на ўзбраенне.

А вось некалькі фактаў абыякавасці, з якімі мне самому непасрэдна давялося сустрэцца. Напісаў неяк невялікі артыкул для газеты «Вячэрні Мінск». Змясцілі яго. У артыкуле гаворка ішла пра непарадкі і бескультур'е ў рабоце грамадскага транспарту ў нашым горадзе-герої Мінску. Занепакоіла мяне тое, што ў трамваях, тралейбусах, аўтобусах мала парадку, некаторыя пасажыры вядуць сябе некультурна, а бывае і агрэсіўна. Напісаў, — усё засталося па-ранейшаму...

Ці ўзяць такі факт. Зайшоў аднойчы ў Ждановіцкую сярэднюю школу. Новы, добры будынак, вялікі калектыў настаўнікаў, вучняў, належнае абсталяванне. Расказаў ім, што ў суседніх са школай дачных пасёлках жыве некалькі Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы, народных мастакоў СССР, народных пісьменнікаў БССР, ветэранаў партыі, вайны і працы. Нядрэнна было б запрашаць іх на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі. Выказваючы такое меркаванне, быў упэўнены, што гэтыя людзі не адмовяць школе. Сам жа прапанаваў план літаратурнага мантажа да свята Перамогі і гатовы быў дапамагчы вучням у яго падрыхтоўцы.

І што ж з гэтага атрымалася? Са мною ахвотна гутарылі і дырэктар школы і кіраўнікі пазакласнай работы. На гэтым усё, фактычна, і скончылася. Настаўнікі школы паставіліся да маёй ідэі абыякава.

І зноў жа факт культурнага жыцця. Неяк, збіраючыся ехаць па справах у Гомель, успомніў, што там ёсць музычнае вучылішча, якое носіць імя вядомага беларускага кампазітара, аўтара Гімна БССР Нестара Фёдаравіча Сакалоўскага. А ў мяне ж ёсць асабісты падарунак ад кампазітара — экземпляр нот яго сюіты з аўтографам! Рашаю: аддам я гэтую рэліквію вучылішчу.

У вучылішчы хаджу па калідорах, класах і нічога не бачу, што б паказала—музычнае вучылішча носіць імя Сакалоўскага. Ні музея, ні кутка, ні нават стэнда. Заходжу да дырэктара. Пазнаёміліся. Дырэктар пытае:

— З якой нагоды да нас завіталі?..

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## ЛЕПШЫЯ ВЫДАННІ ГОДА

**Падведзены вынікі чарговага XXVII Рэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі-86», арганізаванага, як і папярэднія, Дзяржкамвыдам БССР і Рэспубліканскім праўленнем НТТ паліграфіі, выдавецтваў і кніжнага гандлю. На конкурс былі вылучаны 84 кнігі, якія выйшлі летась у рэспубліцы, узнагароды атрымалі 30 з іх.**

**Вышэйшыя ўзнагароды — дыпломы імя Францыска Скарыны і грашовыя прэміі—прысуджаны двум выданням: «Энцыклапедыі прыроды Беларусі» ў 5-ці тамах (выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, мастак А. Шэвераў) і кнізе Цёткі «Избранное» (выдавецтва «Юнацтва», мастак У. Савіч).**

**Па раздзеле грамадска-палітычнай літаратуры дыпломамі I ступені ўзнагароджаны кнігі выдавецтва «Беларусь»: Ф. Энгельс «Развіццё сацыялізму ад утопіі да навукі» (мастак У. Шолк) і 1-ы том «Выбраных твораў» У. І. Леніна (мастак В. Масцераў). Дыпломам II ступені адзначана кніга У. І. Леніна «Аб моладзі» (мастак В. Масцераў).**

**Лепшыя альбомы выдавецтва «Беларусь», аформленыя мастачкай Т. Мельянец, атрымалі: дыплом I ступені — «Спатканне з лесам», дыплом II ступені — «Дзяржаўны музей БССР».**

**Кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура» — «Слова пра паход Ігаравы» (мастак А. Лось) і зборнік вершаў М. Стральцова «Мой свеце ясны» (мастак А. Шэвераў) — узнагароджаны дыпломамі I ступені. Анталогія сучаснай кубінскай паэзіі «Тытунёвая кветка» (дыплом II ступені, мастак А. Александровіч) вызначаецца не толькі добрай аздобай, але і выдатным паліграфічным выкананнем.**

**Дыпломам I ступені адзначаны кнігі «Юнацтва», ілюстраваныя М. Селешчуком: беларуская народная казка «Прагны багацей» і зборнік вершаў Р. Барадуліна «Індыкала-кудыкала». Кніга Ё. Юрчыча «Як аднойчы казала судэлі» з ілюстрацыямі М. Казлова ўзнагароджана дыпломам I ступені. Такім жа дыпломам адзначаны лінагравюры М. Басалыгі да зборніка паэзіі «Дзень міру».**

**Адзначаны дыпломамі I і II ступені шэраг падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, іншых выданняў.**

**Адзінаццаць кніг розных выдавецтваў атрымалі дыпломы III ступені. Дыпломамі II ступені адзначаны дзве кніжкі-малюткі. Гэта аповесць В. Быкава «Абеліск» (выдавецтва «Мастацкая літаратура», мастак Г. Паплаўскі) і зборнік беларускіх народных песень «Купалінка» (выдавецтва «Беларусь», мастак У. Сытчанка). Ратапрынтныя выданні Інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук БССР за высокае паліграфічнае выкананне ўзнагароджаны дыпломам II ступені.**

**І. БОКІЙ.**

## ПЯЦІТОМНІК ДРАМАТУРГА

**Падпісчыкі атрымалі першы том Збору твораў Андрэя Макаёнка, выпуск якога ў пяці кнігах ажыццяўляе выдавецтва «Мастацкая літаратура». Змест тома склалі п'есы «На досвітку», «Выбачайце, калі ласка», «Каб людзі не журыліся», «Лявоніха на арбіце», «Зацюканы апостал», «Трыбунал».**

**Прадмову «З верай у дабрыню» напісаў Сцяпан Лаўшук. Ён жа ўкладальнік тома і аўтар каментарыяў.**

**Г. ЛОСЕЎ.**

## АБМЕРКАВАННЕ РАМАНА

**Гродзенскае абласное аддзяленне СП БССР сумесна з кафедрай беларускай літаратуры мясцовага універсітэта, клубам аматараў гісторыі і культуры краю «Паходня», літаб'яднаннем пры газеце «Гродненская правда» і грамадскасцю горада правялі канферэнцыю па раману Аляксея Карпюка «Карані». Настаўніца Г. Дземчанка, доктар філасофскіх навук Г. Марціросаў, журналіст С. Астраўцоў, біёлаг А. Маісеёнак, Л. Лашак, архітэктар А. Захарчук, літаратары У. Бутрамееў, А. Руцкая, І. Жук, А. Пяткевіч, Д. Бічэль-Загнетава адзначалі, што раман закранае важныя праблемы сацыяльнага і псіхалагічна-маральнага плана. Пісьменнікам створаны каларытныя вобразы Лаўрэна, яго сыноў, Зміцера Крапака і заходнебеларускага паэта Міхася Васілька. Разам з тым удзельнікі канферэнцыі зрабілі шэраг заўваг па кампазіцыйнай будове твора, аўтарскай мове, указвалі на некаторую сюжэтную расцягнутасць.**

**Аляксей Карпюк адказаў на заўвагі і расказаў пра гісторыю стварэння рамана.**

**М. ТАРАНДА.**




**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5—7).**

путату Вярхоўнага Савета БССР тав. Кірэенку К. Ц. Паведамляем Вам, што Ваш зварот па даручэнню Старшыні Савета Міністраў БССР т. Кавалёва М. В. разгледжан Дзяржпланам БССР і Віцебскім аблвыканкомам... Як паведаміў Савету Міністраў БССР Дзяржплан БССР, Віцебскі аблвыканком уключыў у план праектна-доследных работ на 1987 год падрыхтоўку праектна-каштарыснай дакументацыі 80-кватэрнага жыллёвага дома ў гарадскім пасёлку Арэхаўску. Будаўніцтва яго пачнецца ў 1988 годзе, для чаго Дзяржпланам БССР будзе прадугледжана выдзяленне аблвыканкому лімітаў капітальных укладанняў... Кіраўнік справамі Савета Міністраў БССР Л. Максімаў».

І гэта не першы, не адзінкавы прыклад — такога дзелавога, дэмакратычнага, чулага вырашэння пажаданняў і наказаў выбаршчыкаў з боку вышэйшых партыйных і савецкіх органаў нашай рэспублікі!

Безумоўна, дзейнасць дэпутата не можа быць паспяховай без зацікаўленай, шчырай падтрымкі мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. І я не магу не адзначыць, што мне ў гэтым плане вельмі пашанцавала... У адным сваім паведамленні на імя Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Георгія Станіслававіча Таразевіча я пісаў: «У заключэнне лічу сваім абавязкам паведаміць Вам аб вельмі шчырай, зацікаўленай, добрасумленнай шматгадовай працы ў Арэхаўскім пасялковым Савеце былога старшыні выканкома Людмілы Пятроўны Мацеевіч, якая зусім нядаўна выйшла на пенсію і зараз працуе выхавальніцай у дзіцячым садзе, і сакратара Арэхаўскага пасялковага Савета Мінецкай Зінаіды Іванаўны. Па маім перакананні, яны безумоўна заслугоўваюць сардэчнай падзякі і заахвочвання...» Я і перад чытачамі газеты хачу выказаць сёння сваю падзяку гэтым шчырым працаўнікам... Дастаткова сказаць, што нават зараз, будучы на другой працы, Людміла Пятроўна горача і ўсхвалявана прымае да сэрца справы пасялковага Савета...

Зараз партыя ставіць перад Саветамі народных дэпутатаў новыя задачы, якія маюць на мэце ўдасканаленне сацыялістычнай дэмакратыі, павышэнне ролі працоўных калектываў, правоў грамадзян, выхаванне ў кожнага — пачуцця гаспадара краіны, дзе на першым плане — патрыятычнае пачуццё высокага камуністычнага абавязку, адказнасць перад Радзімай... Саветы могуць многае зрабіць па мабілізацыі працоўных на паспяховае выкананне заданняў пяцігодкі, па актывізацыі ўдзелу кожнага савецкага чалавека ў паскарэнні і перабудове стваральных працэсаў жыцця... І я буду шчаслівы і далей з найбольш поўнай аддачай сіл уключацца ў выкананне гэтых задач...

**— Тэма барацьбы за мір заўсёды прыцягвала да сябе ўвагу пісьменнікаў, паэтаў. Знаходзіць яна адлюстраванне і ў вашых многіх творах, прынамсі, у зборніку «Надзея». Сёння, калі асабліва востра паўстае пытанне выжывання чалавецтва, ніхто з творцаў не можа быць абыякавым да гэтай адной з самых глабальных праблем сучаснасці. Што, на вашу думку, можа зрабіць слова паэтычнае, каб прадухіліць тэрмаядзерную катастрофу, забяспечыць чалавецтву мірную будучыню?**

— Прадухіліць тэрмаядзерную катастрофу, забяспечыць чалавецтву мірную будучыню, як паказваюць падзеі нашага часу, можна толькі намаганнямі ўсяго чалавецтва. У гэтых намаганнях ёсць магчымасць праявіць сябе кожнаму чалавеку, а тым больш — паэту, душа якога, прасякнутая трапяткім святлом паэтычнага светабачання, асабліва востра павінна адчуваць любую пагрозу для падсонечнага жыцця.

Ужо многа сказана пра сілу слова, таго слова, якое даходзіць да сэрцаў людзей... І таму нам застаецца толькі жадаць самім сабе, каб у нас знаходзіліся такія даходлівыя словы — словы палымянага закліку, надзеі, перакanання, падтрымкі, веры, якія б узнімалі сэрцы людзей на барацьбу за мір, мацавалі іх упэўненасць у перамогу.

Мне, чалавеку, які прайшоў праз франты вайны, бачыў і балюча перажыў усё, што было звязана з ёй, — кроў, слёзы, смерць дарагіх людзей, цяжар людской пакуты, варварскае знішчэнне, — асабліва агідна дзейнасць сённяшніх гітлераў, якія рыхтуюць і спрабуюць ажыццявіць новыя «крыжовыя» паходы супраць усіх нязгодных з імі, ставяць пад пагрозу спалення ядзерным агнём усяго чалавецтва... Ніхто не можа стаяць у баку ад барацьбы з гэтымі гітлерамі. Кожны пісьменнік павінен лічыць сваім свяшчэнным абавязкам усімі сіламі дапамагаць нашай партыі, якая вядзе няспынную барацьбу за мір і бяспеку, народу свайму, усім змагарам за мір ва ўсім свеце... І ў сувязі з гэтым, я лічу, зноў і зноў паўстае важнасць шырокага адлюстравання героікі Вялікай Айчыннай вайны, — ад нас многае залежыць, каб новыя пакаленні, змагаючыся за мір, выхоўваліся на яскравых, яркіх прыкладах стойкасці, мужнасці, нязломнасці і славы сваіх папярэднікаў...

**— І яшчэ пытанне, Кастусь Ціханавіч... Ці ўваходзіць у вашы планы кніга пра слын-**

Я не спяшаўся з адказам. А ён:

— Можа, уладкаваць каго на вучобу трэба?

— Не, — кажу, сам пытаю:

— Ці ёсць у вас музей або куток памяці Нестара Сакалоўскага?

— На жаль, няма,—адказаў дырэктар.

— А я вось ноты яго сюіты хацеў падараваць вашаму вучылішчу...

— Дык будзем удзячны, калі падаруеце...

Я расказаў дырэктару пра тое, што ў Мінску жывуць родныя Нестара Фёдаравіча, а ў іх знойдзецца, відаць, нямала матэрыялаў і дакументаў пра жыццё і творчасць кампазітара. Даў нават адрас пісьменніка Уладзіміра Шахаўца, які мае сваяцтва з Сакалоўскім і таксама можа дапамагчы.

Дырэктар падзякаваў.

Ідзе час. Не менш двух гадоў мінула з таго наведвання Гомельскага музычнага вучылішча імя кампазітара Нестара Сакалоўскага. І, як мне стала вядома, у вучылішчы пасля палец аб палец не ўдарылі, каб прыдбаць якія-небудзь яшчэ дакументы, матэрыялы, якія б тычыліся жыцця і творчасці Сакалоўскага.

Абыякавасць, абыякавасць...

Зусім нядаўна разам са старэйшым нашым пісьменнікам Янам Скрыганом апынуліся мы ў мястэчку Ракаў Валожынскага раёна. Гэта ўсяго якіх сорак кіламетраў ад Мінска. Была ў нас пільная патрэба пазваніць у Мінск. Зайшлі ў аддзяленне сувязі, папрасілі дазволу пазваніць. Дазвол атрымалі, разменную манету таксама, да тэлефона-аўтамата пайшлі. Але колькі ні кідалі манет, колькі ні набіралі патрэбныя нумары, а з Мінскам звязацца не змаглі. Аказалася, што тэлефон-аўтамат ужо даўно не працуе, але сувязістаў гэта не турбуе.

Не навучыліся многія з нас быць патрабавальнымі да саміх сябе, не хапае ў некаторых грамадзянскай мужнасці не толькі прызнаваць свае недахопы, але і як хутчэй іх вынішчаць, ісці наперад з чыстым сумленнем, з яснасцю ў вачах, з цеплынёю, а не холадам у сэрцы.

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў сказаў у гутарцы з індыйскімі журналістамі: «Мы вядзём бескампрамісную барацьбу з усялякімі негатыўнымі з'явамі, злоўжываннем службовых асоб, з'явамі злачыннасці, амаральных паводзін, з парушэннямі дысцыпліны, парадку, п'янствам. Усё грамадства актыўна ўдзельнічае ў гэтым».

Адкрытасць суровай крытыкі ўсяго адмоўнага ў нашым грамадстве ўсіх нас узвышае, робіць больш моцнымі.

Усё наша грамадства жыве зараз адным — перабудовай. Павінна ісці і перабудова саміх нас, нашага мыслення, нашых паводзін. Ісці ў напрамку змагання з абыякавасцю, з грамадскай пасіўнасцю і безадказнасцю.

**Павел КАВАЛЕЎ.**

## СПРАВАЗДАЧА ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ

**У Гомелі рэгулярна наладжваюцца абласныя выстаўкі маладых мастакоў. Сёлетняя прысвечана XX з'езду ВЛКСМ і XXVIII з'езду ЛКСМБ. У экспазіцыю ўвайшло каля ста работ жывапісу, графікі, іншых відаў выяўленчага мастацтва.**

**Удала выступілі плакатысты, творы якіх прасякнуты высокім грамадзянскім гучаннем. Вызначаюцца кампазіцыі «Людзі, не дазвольце самагубства!» А. Отчыка, «Блакітнай планеце —чыстае неба» У. Лосева, «Курсам з'езда — курсам паскарэння» М. Шклярава. Шэраг экспанатаў прысвечаны барацьбе супраць п'янства і алкагалізму.**

**З жывапісу вылучаюцца палотны «Бацька» М. Дубровы і «Стары млын» П. Лук'яненкі. Цікавыя акварэлі «Рабінка», «Чырвоныя ягады» С. Курашовай. А. МАКСІМАЎ.**

## ПРАЦЯГ СУСТРЭЧЫ

**Як даўнія і добрыя сябры прыехалі ў падшэфны калгас імя Сільніцкага Полацкага раёна літаратары Віцебшчыны. У праўленні гаспадаркі, на сустрэчы з калгаснікамі ішла гаворка аб дасягненнях тутэйшых хлебаробаў, творчых набытках абласнога аддзялення СП БССР.**

**Сваімі думкамі і планамі ў сувязі з перабудовай, нядаўнім Пленумам ЦК КПСС падзяліліся старшыня калгаса Герой Сацыялістычнай Працы Я. Кімстач, сакратар партыйнай арганізацыі калгаса В. Бацюлева, літаратары Д. Сімановіч, У. Папковіч, У. Арлоў, М. Барэйша, А. Салтук.**

**У падарунак хлебаробам уручана бібліятэчка з аўтографамі літаратараў, якія жывуць і працуюць у вобласці.**

**У калгасным клубе гучалі вершы, песні маладога самадзейнага паэта і кампазітара— ён жа і выканаўца — М. Асташэнкі. І. ЗІМІН.**

**ных дзеячаў нашай літаратуры? Многіх, і мяне ў тым ліку, зацікавілі вашы ўспаміны пра Лынькова, Броўку, Гаўрылава, Ткачова, іншых вядомых мастакоў слова... Яны ў лепшым сэнсе выходзяць за межы свайго жанру,—у іх выказваюцца вашы адносіны да творчасці і таго ці іншага аўтара, робіцца спроба вызначыць іх месца ў літаратуры...**

— Ну, безумоўна, калі набярэцца дастатковая колькасць успамінаў, дык з цягам часу будзе і кніга... Хаця ў абавязковых маіх планах не было пакуль што такога пункта — тэрмінова рабіць адзначаную кнігу...

Паколькі вы закранулі пытанне пра ўспаміны, дык дазволю сабе выказаць сваю думку пра гэты від літаратуры.

Я разглядаю ўспаміны пра пісьменнікаў, якія чым-небудзь засталіся ў сэрцы, як своеасаблівы род публіцыстыкі, якая мае несці ў сабе зарад гарачай неабыякавасці да жыцця, да праяў дзейнасці чалавека; дзе любоў, радасць, гнеў, сцвярджэнне або адхіленне ўсяго, што табе дарага або няміла, гучаць як твая споведзь перад часам, як слова барацьбы за твой асабісты ідэал... Успаміны пра дарагіх людзей павінны быць прысвечаны ім, гэтым дарагім людзям, — мяне абураюць опусы «ўспамінальшчыкаў», дзе на фоне таго, пра каго ўспамінаюць, выстаўляюць напаказ сябе, толькі сябе...

Зараз на маім стале ляжыць незакончанае эсэ пра Андрэя Макаёнка, рэпартаж сэрца, які я прысвячаю гэтаму вялікаму драматургу і выключнаму чалавеку... У самы бліжэйшы час мяркую прапанаваць яго ўвазе чытачоў...

Ёсць вялікае жаданне і сардэчная патрэба сказаць шчырае слова пра Якуба Коласа, Кузьму Чорнага, Пятра Глебку, Максіма Рыльскага, Міколу Нагнібеду, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Дубоўку, Уладзіміра Агіевіча, Макара Паслядовіча, Піліпа Пестрака, Валянціна Таўлая, Міколу Сурначова... Калі ўдасца гэта ажыццявіць, значыць, будзе і кніга.

Памяць аб светлых і незабыўных творцах літаратуры — гэта жывая повязь часоў і сэрцаў, якая з'ядноўвае ўсё, што зрабілі нашы папярэднікі, з тым, што робім мы, іх сённяшнія прадаўжальнікі... І трэба берагчы гэтую повязь, бо ў ёй — з хвалюючай яскравасцю праяўляецца сіла нашага духа ў святой справе служэння свайму народу, Радзіме...

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ




Дэкарацыя нагадвае палубу карабля. Але аквамарынавы гарызонт чамусьці не выклікае пачуцця марской прасторы. А «камандзе» (акцёрам), відаць, ніякавата на сваім «караблі». Мітусяцца выканаўцы, жэстыкулююць, гавораць фарсіраванымі галасамі... Як ні стараюцца, іхняя «арганіка» ў прапанаваных абставінах выглядае штучнай.

Так, на сцэне ўсе прыкметы карабля, але карабля, які не плыве і не паплыве: ці то з сушы не зрушыў, ці то сеў на мель.

Параўнанне з такім «караблём» прыкра для любога спектакля. А на гэты ж ускладаліся асаблівыя надзеі: «Вольны вецер» І. Дунаеўскага, наша аперэтачная класіка, пастаноўка (пра што абвясцілі афішы і праграмка), прысвечаная XXVII з'езду КПСС і XXX з'езду Кампартыі Беларусі. Ды ўжо год назад, калі Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР сыграў прэм'еру «Вольны вецер» (рэжысёр-пастаноўшчык Б. Утораў, музычны кіраўнік і дырыжор А. Лапуноў, сцэнограф У. Жданаў), можна было зразумець марнасць «асаблівых надзей». Нягледзячы на тое, што новаму спектаклю апладзіравалі гледачы.

Апладзіруюць яны і сёння. «Вольны вецер» даволі часта з'яўляецца ў бягучым рэпертуары. Апладзіруюць... па інерцыі. Таму што расхінулася заслона. Таму што прагучала знаёмая мелодыя. Таму што на сцэну выйшлі любімыя артысты. Таму што дырыжор павярнуўся тварам да залы. Таму што апладзіруюць ці не ўсе вакол, калі хтосьці раптам запляскае ў ладкі. Ветлівая публіка ходзіць «у аперэту»...

Аднак у інертнай цырымоннай ветлівасці, з якою прымаюць гэты спектакль, ёсць дзёрзкі апанент: свежы погляд. Скіньце акуляры фальшывай ветлівасці, калі яны ўсё ж замінаюць вам убачыць, што «карабель» не плыве! Ён спыніў свой рух гадоў, па меншай меры, 25 назад.

Па тым часе ад гісторыі пра сумленных бунтоўных маракоў, пра хцівых подлых эксплуататараў, пра закаханых Стэлу і Янга яшчэ не павявала наіўнай архаікай. А сёння? Сёння гісторыю, што разгортваецца ў «Вольным ветры», успрымаеш з усмешкай, і ўсмешкай непаблажлівай. (Так глядзіш, бывае, некаторыя пасляваенныя кінастужкі: яны цікавыя толькі для тых, хто быў малады 30—40 гадоў назад, ці для даследчыкаў). Ды наўрад ці іранічная рэакцыя і скепсіс цяперашняй маладой публікі прадугледжваліся пастаноўшчыкамі аперэты, якія імкнуліся яшчэ і мадэрнізаваць твор, рабілі пэўныя перакампаноўкі матэрыялу (крытыка адзначыла гэта ў «Мастацтве Беларусі», № 10, 1986 г.).

Што можа прывабіць у гэтым спектаклі? Бадай, вечная для мастацтва лірычная тэма. У астатнім жа... Нейкая ўмоўная краіна-«заграніца». Схематызм канфлікту паміж «гаспадарамі» (суцэльна мярзотнікамі) і вольным народам. Час дзеяння, відаць,— рубеж 40—50-х гадоў. А цяпер канец XX стагоддзя. Так што антымілітарысцкі і антыімперыялістычны пафас «Вольнага ветру» сёння проста не гучыць на магутным шматгалосым фоне заклікаў да прадухілення сусветнай ядзернай катастрофы! Сучасная амуніцыя сцэнічных паліцэйскіх (каскі, празрыстыя шчыты, гумовыя дубінкі), радкі наконт крылатых ракет, устаўленыя ў куплеты Фамы і Філіпа, зусім дыскрэдытуюць пастаноўку. А знакамітая маршавая песня пра вольны вецер, пададзеная як апафеозны нумар для саліста з хорам? Гэтую па-канцэртнаму франтальную мізансцэну не параўнаеш нават з плакатам. Бо лепшыя сучасныя плакаты — гэта тонкія мастацкія творы, з філасофскай ідэяй, лаканічныя па кампазіцыі, складаныя па тэхніцы выканання.

Пагадзіцеся, што «лёгкасць» жанру аперэты не апраўдвае тую лёгкасць, з якой актуальнасць спектакля падмяняецца прэтэнзіямі на актуальнасць. Шкада акцёраў, якія вымушаны не толькі «лицедействовать», але і «лицемерить», гэта значыць, ашукваць і сябе, і гледача.

І радасна за акцёраў, калі ў рэпертуары з'яўляецца твор, які знешне далёкі ад нашага жыцця і часу, але які можна расквеціць захопленай ігрой, непасрэднасцю пачуццяў, напоўніць дасціпнай назіральнасцю. Хіба не такія магчымасці дае «Сільва» І. Кальмана?

Не так даўно наш тэатр сыграў гэту прэм'еру. Рэжысёр В. Цюпа, які паказаў сябе прыхільнікам сучасных нетрадыцыйных «амплуа» музычнай камедыі («Сірано», «Гуляем у прынца і жабрака»), дэбютаваў на мінскай сцэне як пастаноўшчык класічнай аперэты. Разам з ім працавалі дырыжоры А. Лапуноў, А. Сасноўскі, мастакі У. Жданаў і В. Жалонкіна...

Папулярнасць «Сільвы», яе доўгая сцэнічная гісторыя (аперэта і ў Мінску ставіцца, вядома, не ўпершыню), яе з'яўленне на экране,— прычыны таго, што новыя версіі твора ўжо не ўспрымаюцца як абсалютна непаўторныя. Таму вельмі многае залежыць ад акцёраў: іх ігра нясе або застарэласць аперэтачнага штампа, або свежы водар непаўторнасці.

Якая ж яна, новая «Сільва»? Не бяздумная і не бяздушная. Вясёлая, камічная, іранічная, сумнаватая... Героі гэтага спектакля не манекены ў фраках, не ўпрыгожаныя лялькі, а людзі, са сваімі эмоцыямі і звычкамі, слабасцямі і прыхільнасцямі, са сваім лёсам, са сваімі адносінамі да жыцця. «Пра што» спектакль? Пра чалавечнасць...

Ва ўсякім разе, для мяне прагучаў найбольш выразна і пераканальна матыў чалавечнасці — дзякуючы ансамблю акцёраў. Выканаўцаў у спектаклі многа. Ды сёння спасылаюся толькі на тых, каго вылучаю безагаворачна, не пакрывіўшы душой. Іншы назаве іншых.

Як многа можна расказаць пра Сільву Н. Гайды! Зняўшы маску «красотки кабаре», гераіня ператвараецца ў стомленую, «будзённую», шчырую жанчыну. А безабароннае даверлівае дзяўчо, свецкая дама, няшчасная зняважаная душа, найграна-дурнаватая і вульгарная какетка (перад маці Эдвіна), вынаходлівая закаханая з «часцінкай чорта», актрыса з драматычным лёсам,—гэта ўсё яна!

Завадатар вясёлых спраў, балбатун і няўрымслівы адданы сябра — гэта Боні (віртуозная пластычная ігра А. Кузьмянкова). Пікантная, маладжавая, капрызлівая норавам дама — гэта матухна Эдвіна (удалая работа І. Скорабагатавай ва ўзроставай ролі). Шаржаваны «пад Скалазуба» генерал Рансдорф — каларытная, сакавітая нават, фігура (артыст А. Цівуноў). Імпазантны, «з манерамі», закамплексаваны ўласнай «чыстапароднасцю» — князь Леапольд (з густам праведзеная роля Г. Казлова).

Лёгкасць, за якой не відаць «поту»,— адзнака майстэрства ў любой справе. Для аперэты лёгкасць яшчэ і закон. Акцёры, якія прывабілі маю ўвагу, гэты закон не парушаюць: ні ў лірычных дуэтах, ні ў каскадных нумарах, ні ў так званых «размоўных зонах». У спектаклі прываблівае дасціпна, парадыйна пастаўлены канкан (мабыць, крышку і «перасолены»— але гэта ўжо на чый густ). Дынамічная, лёгкая сцэна высвятлення ўзаемаадносін Стасі і Боні... І ўсё ж закон лёгкасці парушаецца, ну скажам так, празмернасцю і супярэчлівасцю пастановачных пошукаў, сцэнічнай шматслоўнасцю.

У відовішчы прачытваецца намер стваральнікаў спектакля паказаць «тэатр у тэатры»: на сцэне імітацыя публікі ў ложах. Публіка гэтая (хор ці статысты) досыць бурна рэагуе на падзеі, але героі падзей непачціва паказваюць ёй спіну, бо звяртаюцца да той публікі, што ў рэальнай глядзельнай зале. Супярэчлівае ўражанне ад сінтэзатарных «уставак» — парафразаў на тэмы «Сільвы». Здавалася б, гэта ўносіць у дзеянне музычную імправізацыйнасць, але ж імправізацыйнасць зададзеная, механічная робіцца тормазам для натуральнага сцэнічнага развіцця драматургіі. Досыць надакучліва абыгрываецца ў фінальнай дзеі «светламузычная» лесвіца; а як старанна зрэжысіраваны — у прасторы і ў часе — паклон удзельнікаў спектакля...

Калі з-за рэжысуры або з-за дырыжора трансфармуецца тэмпарытм пастаноўкі, губляе тонус і акцёрскі ансамбль.

Канечне, шкада, што здараецца гэтак і ў спектаклях, дзе ёсць магчымасць раскрыцца ўдумлівым, чуйным, тонкім акцёрам. Але ўсцешна, што ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР яны ёсць. А такія акцёры маюць густ і патрабавальнасць да рэпертуару.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

ЧЫТАЧ СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ

**Адам МАЛЬДЗІС**

# ВЯРНУЦЬ ЗАКОННАМУ ЎЛАДАЛЬНІКУ

Гістарычны лёс беларускага народа склаўся так, што яго матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці *разышліся, распыліліся* літаральна па ўсім свеце. На тое было некалькі прычын — і грабежніцкая палітыка акупантаў у час шматлікіх войнаў, і марнатраўства мясцовых магнатаў, і ўласная нядбайнасць. У выніку ўсяго гэтага нашы музейныя, бібліятэчныя і архіўныя зборы выглядаюць сёння куды бядней, чым сховішчы іншых славянскіх народаў. Каб пазнаёміцца з помнікамі сваёй матэрыяльнай і духоўнай культуры, даследаваць іх, нам даводзіцца ездзіць у іншыя рэспублікі і іншыя краіны, выдаткоўваць на гэта вялікія грошы.

Найбольшыя страты беларуская культура панесла ў другой сусветнай вайне. Фашысцкія захопнікі мэтанакіравана і сістэматычна рабавалі і вывозілі ў райх каштоўнасці, што захоўваліся ў беларускіх музеях, архівах і бібліятэках. Прывяду толькі некалькі найбольш характэрных фактаў, узятых з тагачаснага друку. Ужо ў канцы жніўня 1941 г. з Мінска, з Дзяржаўнага музея БССР, у Кёнігсберг былі вывезены найбольш каштоўныя карціны, «каменныя бабы», калекцыя слуцкіх паясоў, што да вайны захоўвалася ў Нясвіжы. Затым на Захад былі адпраўлены найбольш каштоўныя часткі збораў рэспубліканскай, акадэмічнай, універсітэцкай і мінскай гарадской бібліятэк. У Рацiборы апынуўся архіў АН БССР. У 1943 г. былі разрабаваны калекцыі Баранавіцкага музея, дзе захоўваліся карціны Рубенса, Сальваторэ Роза, творы беларускіх мастакоў, заходнееўрапейскі і кітайскі фарфор, беларуская разьба па дрэве XIV стагоддзя. Урэшце вясной 1944 г. былі вывезены ў Германію, спачатку ў Інстэнбург, а потым у Гехштадт (каля Ульма на Дунаі), зборы Дзяржаўнага музея БССР. Усё гэта ў сваёй пераважнай большасці так і засталося за мяжой. Рэальныя сляды беларускіх калекцый сустракаў у ФРГ Юліян Сямёнаў. Паводле слоў савецкай журналісткі Алены Брусковай, у Аўстрыі, у штольні пад гарой Зальцберг, фашысты перахоўвалі скрынкі з кнігамі, якія належалі мінскай гарадской бібліятэцы. Мне самому ў час камандзіроўкі ў Англію даводзілася бачыць у Лондане, у бібліятэцы імя Ф. Скарыны, багаты альбом з унікальнымі здымкамі, зробленымі ў 20-я гады ў час навуковай экспедыцыі на Случчыне. Альбом гэты да вайны безумоўна належаў Дзяржаўнаму музею БССР, бо экспедыцыя адбывалася пад кіраўніцтвам тагачаснага дырэктара гэтага музея.

**Асобна трэба сказаць пра лёс магілёўскіх збораў, сярод якіх знаходзіўся славуты крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены ў 1161 г. выдатным майстрам Лазарам Богшам з 21 залатой пласціны, куды былі ўстаўлены каштоўныя камяні. Твары святых на гэтай гістарычнай рэліквіі чаргаваліся з тонкім арнаментам і надпісамі... Апрача таго, у Магілёўскім музеі да вайны захоўваліся дзесяткі рукапісных і старадрукаваных кніг, залаты і сярэбраны ключы ад гарадскіх варот, сярэбраныя гарадскія пячаткі, мітра Георгія Каніскага, каштоўныя кубкі з партрэтамі рускіх цароў, пярсцёнкі і каралі з пампейскіх знаходак... Усё гэта на самым пачатку вайны бясследна знікла з Магілёва... Зрэшты, не зусім бясследна. Па звестках, якія ёсць у «Эрмітажы», крыж Ефрасінні Полацкай трапіў у калекцыі амерыканскага мільянера Моргана. Пасля маёй публікацыі пра гэта, зробленай у газеце *«Літаратура і мастацтва»* ў 1970 г., заходнія журналісты рашылі прайсціся па ўказаных слядах. Але іх роспыты не далі ніякіх вынікаў: хто ж захоча прызнацца, што ён трымае нарабаванае! Відаць, гэта разумелі і заходнія журналісты. Бо, як яны лічаць, негатыўныя вынікі роспытаў — яшчэ недастатковы довад таго, што крыж сапраўды не ў ЗША ды й не ў калекцыі Моргана».**

Вялікія каштоўнасці былі вывезены з Беларусі таксама ў час першай сусветнай вайны — як кайзераўскімі, так і белапольскімі войскамі, а таксама іх мясцовымі стаўленікамі. У 1916 г. сотні беларускіх рукапісаў XVI—XVIII стагоддзяў паступілі ў Гамбургскі каланіяльны (!) інстытут і Франкфурцкі універсітэт. У 1920 г. белапольскае Мінскае кола таварыства аховы помнікаў вывезла на Захад 600 скрынь з 36 тысячамі экспанатаў — карцінамі, кнігамі, старадаўняй зброяй, вырабамі ўрэцкай, налібоцкай, карэліцкай, гродзенскіх мануфактур XVIII ст. Куды вывезла—дакладна не ведаем да сённяшняга дня, хаця гэта няцяжка ўстанавіць па музейных і бібліятэчных каталогах.

Падобныя прыклады, блізкія і больш аддаленыя ў часе (колькі было вывезена ўсялякага дабра шведамі, французамі!), можна было б множыць. Відаць, нямала іх ведаюць работнікі Дзяржаўнага і Мастацкага музеяў БССР, вядучых бібліятэк. З такіх прыкладаў даўно пара скласці поўны спіс нашых музейных, бібліятэчных і архіўных страт, асабліва часоў апошняй вайны. І, стварыўшы спецыяльную камісію, распачаць карпатлівую работу па выяўленні і вяртанні вывезеных каштоўнасцей. Усё тое, што нарабавана захопнікамі, павінна быць па справядлівасці вернута законнаму гаспадару — беларускаму народу!

**Другі, куды больш лёгкі аспект справы — вяртанне тых беларускіх калекцый, якія ў выніку ваенных падзей або розных выпадковасцей аказаліся ў *суседніх рэспубліках*. У першую чаргу тут трэба назваць бібліятэку Храптовічаў і Віленскі беларускі музей. У XVIII ст. вядомы дзяржаўны дзеяч, мецэнат і паэт Іяахім Храптовіч сабраў у сваім маёнтку ў Шчорсах каштоўныя кнігі і рукапісы, якія пераважна датычыліся мясцовай гісторыі. Удзячнымі чытачамі гэтай бібліятэкі з'яўляліся ў свой час Адам Міцкевіч і Ян Чачот. Паміраючы, апошні з Храптовічаў завяшчаў свае зборы першай вышэйшай навучальнай установе, якая адкрыецца ў яго родных мясцінах. І тут пачалася першая сусветная вайна. Да Шчорсаў наблізіліся кайзераўскія войскі. Каб выратаваць зборы, іх *рашылі* часова перавезці ў Кіеў. У 1925 годзе, калі ўжо дзейнічаў Беларускі дзяржаўны універсітэт, паміж беларускім і ўкраінскім урадамі вяліся перагаворы (пра іх пісала тады «Полымя»), каб вярнуць шчорсаўскую бібліятэку ў Беларусь. Але часы змяніліся, перагаворы спыніліся, і зборы Храптовіча да гэтага часу знаходзяцца ў Кіеве.**

За межамі Беларусі застаецца таксама асноўная і найбольш каштоўная частка экспанатаў Віленскага беларускага музея, стварэнне якога было распачата яшчэ да рэвалюцыі. Дзякуючы намаганням інтэлігенцыі і матэрыяльнай падтрымцы шырокіх народных мас тут былі сабраны рукапісы і старадрукі, карціны і гравюры, слуцкія паясы і ўрэцкае шкло, вырабы народных майстроў. Усё гэта даволі шчасліва перажыла ваенную навалу. Літоўскі Савецкі ўрад добра разумеў каштоўнасць віленскай калекцыі для беларускага народа. І калі ў 1945 г. музей рашылі расфарміраваць, была створана спецыяльная літоўска-беларуская камісія, абавязаная справядліва падзяліць усе фонды. Аднак з беларускага боку ў камісіі, на жаль, аказаліся не зусім кампетэнтныя і адказныя таварышы. У выніку ў Мінск была перавезена толькі частка архіва «Нашай Нівы» (сёння яна захоўваецца ў Дзяржаўным музеі-архіве літаратуры і мастацтва БССР). *Большасць* рукапісаў беларускіх пісьменнікаў, старадрукі, камплекты перыёдыкі, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, гістарычныя рэліквіі — усё гэта засталося ў Вільнюсе — у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Літоўскай ССР (фонд 21 у аддзеле рукапісаў), у гісторыка-этнаграфічным музеі, што ля гары Гедыміна. Усе гэтыя зборы сёння цяжка даступныя беларускім даследчыкам (кнігі, напрыклад, не вычленены з агульных каталогаў па моўным прынцыпе, як гэта зроблена ў іншых вільнюскіх бібліятэках). І, тым не менш, кожны раз, калі прыязджаеш у камандзіроўку ў Цэнтральную навуковую бібліятэку АН Літоўскай ССР, застаеш там некалькі сваіх беларускіх калег... Дзяржаўнымі грашамі аплачваецца сёння безадказнасць нашых таварышаў, якія ўдзельнічалі ў рабоце сумеснай камісіі. І сёння, відаць, настаў час выправіць тую пасляваенную памылку. Нашы рэспублікі, нашы акадэміі, нашы акадэмічныя бібліятэкі цяпер спаборнічаюць, цесна супрацоўнічаюць паміж сабой. І, думаецца, пры адпаведных захадах літоўскія калегі па-сяброўску перададуць нам зборы Віленскага беларускага музея, якія ім (па іх жа словах) не дужа патрэбны, а нам дазволяць запоўніць многія прагалы ў гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Дарэчы, захаваліся старыя інвентарныя вопісы музея, якія дапамогуць пры такой перадачы.

Пры добрай волі нашых бліжэйшых суседзяў (а ў гэтай добрай волі я не сумняваюся) можна было б таксама вярнуць на беларускую зямлю нясвіжскі і полацкі кнігазборы, вывезеныя ў выніку ваенных дзеянняў, калекцыі А. Каладзеева з Барысава, А. Ельскага з Замосця, Чапскіх са Станькава. А таксама атрымаць з вядучых бібліятэк краіны хаця б адзін камплект выданняў Францішка Скарыны. Тым больш, што гэтых выданняў у некаторых гарадах ёсць па некалькі экземпляраў. Да 500-годдзя з дня нараджэння беларускага першадрукара наша рэспубліка магла б атрымаць неацэнны падарунак.

Пытанні, якія тут узнімаюцца, далёка не новыя. Многія матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці ў апошнія дзесяцігоддзі вярнулі нашы суседзі (прыгадаем хаця б вавельскія габелены). Актыўна вядзецца такая работа ў Грузіі, Арменіі. І толькі беларусы неяк сарамеюцца заявіць аб сваім праве на тое, што з'яўляецца часткай іх гістарычнай спадчыны. Спадчыны, якую мы павінны памножыць і перадаць наступным пакаленням.

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

# «ЁН СТВАРЫЎ ПЕСНЮ ПРА НАШ ГОРАД...»

— Дзесяць гадоў назад тут, у актавай зале Мінскага тэхналагічнага інстытута, адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 65-годдзю пісьменніка Уладзіміра Карпава. На тым вечары прысутнічаў і сам Уладзімір Барысавіч. Той вечар запісвала тэлебачанне, і зараз, я чуў, вырашана паказаць яго на экранах тэлевізараў зноў. Гэта вельмі прыемна. Мы будзем мець магчымасць убачыць яго, пачуць яго голас. Зрэшты, пісьменнік жыве ў сваіх творах. І пакуль жывуць ягоныя кнігі, жыве і ён. А кнігі Уладзіміра Карпава — жывуць. Яго раманы «За годам год», «Вясеннія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць» — гэта суровая, мужная і ўзнёслая песня пра сталіцу Беларусі.

Ён стварыў і пакінуў нам у спадчыну сваю песню пра наш горад. «Ведаеце, якім я ўбачыў Мінск у 44-ым? Зусім разбураным. І зайцы крычалі ў трамвайным парку», — любіў гаварыць Уладзімір Барысавіч. Ён любіў Мінск, і з вялікай любоўю паказаў яго нам, паказаў у гады змагання з фашызмам і ў гады аднаўлення, у гады пасляваеннага будаўніцтва. Пра наш горад ён расказаў не толькі ў сваіх мастацкіх творах. Уладзімір Карпаў — адзін з аўтараў кнігі «Мы раскажам пра Мінск», ён — аўтар тэксту да фотаальбома «Мінск», ён — складальнік кнігі «Горад і гады». Прачытайце, дарагія таварышы, ягоныя кнігі — вы будзеце мець асалоду паслухаць узнёслую песню пра наш горад, пра нашу слаўную, мужную і працавітую сталіцу...

Такімі словамі адкрываў вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Карпава, які днямі адбыўся ў Беларускім тэхналагічным інстытуце імя С. М. Кірава, Алесь Асіпенка. Ён падзяліўся са студэнтамі і выкладчыкамі ўспамінамі аб сустрэчах, размовах з У. Карпавым, падкрэсліў сур'ёзнасць, грунтоўнасць і мэтанакіраванасць творчасці вядомага пісьменніка і літаратуразнаўцы.

З увагай слухала зала выступленне Героя Савецкага Саюза М. Осіпавай. Яна расказала, як пазнаёмілася з Уладзімірам Карпавым. Гэта здарылася неўзабаве пасля забойства Кубэ, у якім яна прымала непасрэдны ўдзел. З Мінска яна шчасліва выбралася і апынулася ў вёсцы Янушкавічы на партызанскай Лагойшчыне. Там да яе завітаў зусім малады хлопец, назваўшыся прадстаўніком Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б Валодзем. Гэта быў першы чалавек, каму Марына Барысаўна расказала ўсю праўду. Мо і з гэтае прычыны сустрэча запомнілася. Памятала яна вясёлага, усмешлівага хлопца Валодзю, пра якога адно і ведала, што ён — Валодзя. А другі раз убачыла яго ажно праз дзесяць гадоў, на сустрэчы былых партызан і падпольшчыкаў у Руднянскім лесе на той жа Лагойшчыне. Там да яе падышоў ужо немалады, з пасівелымі скронямі чалавек і загаварыў: «Марына Барысаўна, не пазнаяце? Валодзя я. Памятаеце?» Так яны сустрэліся зноў. І з тае пары сяброўства, дружба іх доўжылася да самай смерці пісьменніка.

— Ён мог бы яшчэ так шмат зрабіць! У яго было надзвычай шмат планаў і задум. На вялікі жаль, ён не паспеў іх здзейсніць. Але і таго, што ён зрабіў, досыць, каб сказаць: такія людзі не забываюцца, яны будуць жыць не толькі ў нашай памяці, але і ў памяці нашчадкаў, — скончыла свой расказ М. Осіпава.

Пра творчы шлях У. Карпава расказаў студэнтам Уладзімір Юрэвіч. Ён адзначыў, што ў творах, прысвечаных мінулай вайне, пісьменнікі часам грашылі супраць праўды, апускалі тыя цяжкасці, з якімі сутыкнуліся савецкія людзі, не адлюстроўвалі трагедыйнага ў подзвігу народа. У. Карпаў адным з першых у нашай літаратуры пачаў пісаць праўду аб вайне, аб змаганні з фашызмам у акупацыю. Ён абапіраўся на строга дакументальны матэрыял. Але пісьменнік здолеў пераадолець супрацiўленне дакументалістыкі, стварыў сапраўдныя мастацкія творы. Кніг такога плана, якія выйшлі з-пад пяра У. Карпава, у нашай літаратуры няшмат, падкрэсліў У. Юрэвіч.

Член праўлення Мінскай секцыі ветэранаў вайны К. Груздзёў пазнаёміў прысутных з баявым шляхам Уладзіміра Барысавіча, адзначыўшы ў заключэнне, што раманы пісьменніка пра мінскае падполле з'яўляюцца, па сутнасці, своеасаблівымі падручнікамі па партызанскай барацьбе ў нашым горадзе.

Аляксей Зарыцкі прачытаў верш, прысвечаны У. Карпаву.

Успамінамі пра Уладзіміра Барысавіча падзялілася яго былая вучаніца М. Пікулоўская, — ён вучыў яе, калі працаваў дырэктарам школы ў вёсцы Крукі былога Камарынскага раёна.

Цёплае слова ўдзячнасці ўсім, хто прыняў удзел ва ўшанаванні памяці У. Карпава, сказала ўдава пісьменніка М. Карпава.

Вечар завяршыўся канцэртам, які далі артысты Белдзяржфілармоніі.

**М. КАВАЛІЦКІ.**



**У калгасе імя У. І. Леніна Акцябрскага раёна прайшоў Дзень выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аб стане выдавецкіх спраў працаўнікам гаспадаркі расказалі загадчык рэдакцыі прозы У. Рубанаў і старшы рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі М. Мятліцкі. Адзначалася роля сацыяльнага заказу ў рабоце «Мастацкай літаратуры». У прыватнасці, на матэрыяле з жыцця гэтага калгаса В. Шырко піша кнігу нарысаў.**

**Літаратараў прыняў першы сакратар Акцябрскага райкома партыі М. М. Судас.**

Супрацоўнікі «Мастацкай літаратуры» сярод калгаснікаў. У цэнтры — старшыня гаспадаркі С. Карагедаў.

Фота І. РАГОВІЧА.

# ПАД ВЕТРАЗЕМ ШУКАННЯЎ І НАДЗЕЙ...

**З МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ «МАЛАДОСЦЬ РЭСПУБЛІКІ», ПРЫСВЕЧАНАЙ XXVIII З'ЕЗДУ ЛКСМБ**

**Зусім не выпадкова слова «ветразь» трапіла ў загаловак гэтага матэрыялу. Яго і сапраўды можна ўбачыць у залах мінскага Палаца мастацтваў, як адзін з элементаў афармлення экспазіцыі рэспубліканскай маладзёжнай выстаўкі. У гэты сімвал гармоніі і прыгажосці моладзь быццам заклала глыбокі сэнс—імкненне выйсці на прасцягі свайго мастацтва. І гэта натуральна, бо ім, маладым, па адным толькі ўзросце належыць будучыня. Ад іх мы чакаем смелых крокаў у творчасці, жывога і мабільнага водгуку на ўсе вострыя праблемы сённяшняга дня.**

**Так, можна сказаць, што выстаўка «Маладосць рэспублікі» ў пэўнай ступені дае адказ на гэтыя пытанні. Тут быццам ёсць усё: і разнастайнасць тэм і жанраў, і спроба зірнуць на свет сваімі ўласнымі вачамі. Сярод амаль чатырохсот твораў жывапісу, скульптуры, графікі, плакату, дэкаратыўна-прыкладнога і манументальнага мастацтваў ёсць работы, якія сведчаць пра жывы творчы пошук маладых. Але сустракаеш у экспазіцыі і сузіральна-меланхалічныя роздумы ў ружовым бесканфліктным свеце, якія не хвалююць гледача ні тэмай, ні яе падачай. І міжволі думаеш: чаму маладыя аўтары не імкнуцца да большага, чым зрабіць проста па-рамесніцку ўмелую, прафесійную работу?**

**Даць пэўную ацэнку выстаўцы, пагаварыць аб праблемах маладых мастакоў напярэдадні маючага адбыцца з'езда творчага Саюза мы запрасілі тых, чые творы экспануюцца сёння ў залах Палаца мастацтваў. Слова—самой творчай моладзі рэспублікі.**

**У. САВІЧ,**
**мастак-графік:**

— Мне давялося рабіць экспазіцыю графікі. Якое ад яе ўражанне? На маю думку, яна магла быць значна лепшай. Многа і слабых твораў трапіла на выстаўку, а іх чамусьці прапусціў выстаўком. Калі гаварыць увогуле пра графіку маладых, дык тут існуе адна асноўная праблема—нежаданне працаваць над сабой, шукаць пастаянна, актыўна. Сёй-той, пэўна, здзівіцца: маўляў, у графіцы Беларусі—моцны атрад мастакоў, тых, хто выйшаў у апошнія гады са сцен БДТМІ. Многія з іх сапраўды валодаюць рамяством, разнастайнымі тэхнікамі, умеюць працаваць у розных матэрыялах. Словам, прафесійную падрыхтоўку на аддзяленні графікі яны атрымліваюць салідную. Але з тых пяці дзесяткаў мастакоў, што атрымалі дыпломы прыкладна за апошніх дзесяць гадоў, з творчым гарэннем працуюць нямногія. І не таму, што астатнія няздольныя, неталенавітыя. Проста той талент не кожны хоча развіваць. І гэта яскрава бачна ў экспазіцыі выстаўкі. А між тым, самаадукацыя прафесіянала — ці не самы важны фактар у творчасці. Я не стамляюся выказваць гэтую думку сваім студэнтам, якія, дарэчы, у сценах ВНУ—больш актыўныя асобы. Што гэта так, пацвердзіла нядаўняя выстаўка, прысвечаная 40-годдзю тэатральна-мастацкага інстытута, на якой прагучалі, у прыватнасці, імёны такіх маладых мастакоў, як Уладзімір Гладкевіч, Алена і Канстанцін Вашчанкі, Алег Назаранка. Дарэчы, яны—менавіта з тых нямногіх, хто не супакойваецца, а самастойна працягвае шукаць сваё слова ў графіцы. Вось чаму іх творы і на выстаўцы «Маладосць рэспублікі» вылучаюцца навізной, свежым почыркам, неардынарным асэнсаваннем тэмы.

І яшчэ. Гэта мая апошняя выстаўка, у якой я прадстаўлены як «малады» мастак. Вось чаму звяртаюся да тых, хто прыме ўдзел яшчэ не ў адной маладзёжнай справаздачы. Новы творчы ўзлёт нацыянальнай графікі адбудзецца тады, калі праца пераможа інерцыю.


С. ГАРБУНОВА. Партрэт Святланы Цітовіч.

**У. КРЫВАБЛОЦКІ,**
**мастак-манументаліст, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі:**

— Вядома, рэспубліканская выстаўка і тым больш такая, якая працуе ў перадз'ездаўскія дні,—падзея для нас, маладых. Што можна сказаць пра экспазіцыю? На маю думку, нам, манументалістам, у параўнанні з жывапісцамі, графікамі, прыкладнікамі, якія прадстаўлены ў экспазіцыі творамі-арыгіналамі, не пашанцавала. Чаму? Не стае нам яшчэ культуры падачы на выстаўках менавіта той мастацкай прадукцыі, якая выходзіць за межы камернасці, працуе цяпер для людзей, у інтэр'ерах і экстэр'ерах будынкаў грамадскага прызначэння, на вуліцах і плошчах рэспублікі. Возьмем хоць бы мой роспіс «У імя жыцця на зямлі», які я стварыў для Ушацкага музея. Плошча яго—каля чатырохсот квадратных метраў. Гэтай шматфігурнай кампазіцыі я аддаў амаль пяць гадоў напружанай працы, распісаны тэмперай кожны яе сантыметр. А на выстаўцы вісяць толькі чорна-белыя фатаздымкі і невялікі эскіз-кардон. Ці можна ўявіць сабе музейную залу з тым роспісам па гэтых дэталях? Зразумела, не! Тое ж самае і з іншымі творамі манументальнага мастацтва, што ў экспазіцыі «Маладосці рэспублікі», якія прадставілі мае таварышы... А чаму б не паклапаціцца Палацу мастацтваў пра спецыяльныя канструкцыі для вялікіх слайдаў з падсветкай, на якіх вітражы, мазаікі, роспісы глядзеліся б зусім інакш? Дарэчы, зрабіць слайд або каляровы фотаздымак—заўсёды вялікая праблема, нягледзячы на тое, што ў дагаворы з мастацка-вытворчым камбінатам ёсць пункт: як толькі работа на аб'екце здаецца, дык адразу яе фатаграфаваць.

І яшчэ пра наш камбінат. Мушу сказаць, што для манументалістаў тут няма амаль ніякай базы. Няма спецыяльнай майстэрні для вітражыстаў. Вось цяпер мы працуем над эскізамі ў памяшканні, дзе ідзе пайка вітражоў. Уяўляеце, чым там мы ўсе дыхаем? А між тым, замест таго, каб аддаць былыя скульптурныя майстэрні вітражыстам, у гэтыя вялікія памяшканні засялілі рэзчыкаў па дрэве. На камбінаце няма залы, дзе нам можна было б рабіць эскіз-кардон буйных памераў у натуральную велічыню, даводзіцца траціць час, каб у горадзе знайсці такое памяшканне, за арэнду якога камбінат аддае нямала грошай. Вось тут варта падумаць пра такі варыянт: у Мінску рэстаўрыруюцца пэўныя пяціпавярховыя будынкі, чаму б не дамовіцца з гарадскімі ўладамі, каб у час капітальнага рамонту дабудоўваць спецыяльна для манументальных майстэрань яшчэ адзін паверх? Час паклапаціцца і пра мастакоў, якія ствараюць мазаіку: няма на камбінаце майстэрань, дзе колюць смальту, людзі займаюцца гэтым у халодных падвальных памяшканнях... Словам, ёсць нямала праблем, якія перашкаджаюць маладому мастаку працаваць з поўнай аддачай, рашаць менавіта творчыя пытанні...


У. КОЖУХ. Ордэнам Чырвонай Зоркі.

**В. МІХАЙЛОЎСКІ,**
**жывапісец, член маладзёжнага аб'яднання СМ БССР, г. Віцебск:**

— Я вось пра што хачу сказаць: выстаўка наша скончыцца, адбудзецца яе абмеркаванне, але нас, моладзь з перыферыі, ніхто на яго, дарэчы, як і заўсёды, не запросіць. Здаецца, мы ўжо і прывыклі да таго, што Саюз мастакоў рэспублікі, у прыватнасці, маладзёжнае аб'яднанне, не надта песціць нас увагай. Ва ўсякім разе, нам вельмі не стае шчырай, зацікаўленай гаворкі пра творчыя праблемы, што існуюць у асяроддзі маладых мастакоў, нам неабходны крытычны аналіз нашай працы. А ці часта звяртаюцца да творчасці абласных жывапісцаў, графікаў, скульптараў мастацтвазнаўцы са сталіцы? На жаль, не. Шчыра кажучы, куратарства Мінска мы не адчуваем. Праўда, зрэдку прыязджаюць, каб закупіць пэўныя творы, у асноўным графічныя.. А так, калі паглядзець, дык творчая моладзь даходзіць да ўсяго сама. Але часам, бывае, таленавітыя хлопцы не вытрымліваюць—ідуць у «афармілаўку» (бо спрацоўваюць меркантыльныя інтарэсы), страчваючы самае каштоўнае—патрэбу ў творчасці.

Ёсць яшчэ адна праблема, ад якой залежыць, між іншым, усё наша далейшае жыццё. Вядома, што член маладзёжнага аб'яднання—прэтэндэнт на ўступленне ў Саюз мастакоў. Зразумела, калі ён актыўная асоба, калі стабільна працуе. Нас у Віцебску, я маю на ўвазе менавіта членаў маладзёжнага аб'яднання, некалькі чалавек. На сённяшні дзень усе мы маем за плячамі па пятнаццаць выставак, сярод якіх ёсць і ўсесаюзныя. Але ці пашчасціць нам быць заўважанымі нашымі старэйшымі калегамі са сталіцы, ці дасць нам хто адтуль параду—рыхтаваць дакументы на паступленне ў Саюз або варта яшчэ працаваць над сабой, каб не сорамна было за свае творы? Гэта, як кажуць, пытанне адкрытае. Застаецца толькі спадзявацца на выпадак...


А. КСЯНДЗОЎ. Навальніца. З цыкла «У шляху».

**С. ГАРБУНОВА,**
**скульптар, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі:**

— На жаль, не магу пахваліцца, як старшыня бюро секцыі скульптуры Саюза мастакоў, што экспазіцыя, дзе прадстаўлены пластычныя творы маладых,—з лепшых. Мне здаецца, нельга ацаніць станоўча экспазіцыю, дзе няма ніводнай «заглавной» работы, не адчуваецца імкнення да пошуку, да мастацкага адкрыцця. Ды і сама я выставіла толькі два скульптурныя партрэты... А між тым, у скульптуры павінны ўвасабляцца самыя высокія ідэі. Бадай, найбольш складаная тэма—вобраз сучасніка. Здаецца, каму ж, як не нам, маладым, распрацоўваць яе далей? Аказваецца, часам нам лягчэй схавацца за гісторыю, бо там быццам усё зразумела. Вядома, ёсць у маладых скульптараў нямала нявырашаных праблем, якія замінаюць штодзённа падтрымліваць сябе ў творчай форме. Пасля заканчэння інстытута малады мастак падобны на птушаня, якое выпала з гнязда. Ён пазбаўлены кантролю і дапамогі настаўніка, інстытуцкай майстэрні. Пачынаюцца праблемы з працаўладкаваннем. Памятаю, якім ударам для мяне, выпускніцы з чырвоным дыпломам, было застацца без працы, бо менавіта тады ўсіх скульптараў вывелі са штата камбіната... Прайшло чатыры гады з дня заканчэння БДТМІ да стварэння помніка Сымону Буднаму, над вобразам якога я працавала яшчэ ў сценах інстытута. Я зразумела за гэты час адно: цяжка адстойваць сваю мастакоўскую пазіцыю, але без яе не адбудзецца індывідуальнасць, асоба творчая. Чаму я гэта падкрэсліваю? На жаль, той-сёй з маладых ставіць сабе за мэту толькі матэрыяльную забяспечанасць і займаецца рамесніцтвам. Колькі разоў даводзілася назіраць на савеце, як скульптар, якому прапануюць зрабіць манументальны знак, адмаўляецца ад заказа, бо за бюст, маўляў, большыя грошы плацяць. Сорамна і крыўдна становіцца за такога чалавека, які носіць званне мастака. Вось чаму хочацца прыгадаць вядомыя словы: трэба падтрымліваць талент, а бяздарнасць сама праравецца. А талент—гэта не толькі здольнасць, гэта яшчэ і самааддача, грамадзянская пазіцыя, стан душы творцы. Менавіта такім людзям і трэба ісці насустрач, забяспечваць іх майстэрнямі, пасылаць у дамы творчасці, словам, падтрымліваць.


Р. СІТНІЦА. Развітальныя чароды. Фота А. КАЛЯДЫ.

Інтэрв'ю ўзяла
**Л. КРУШЫНСКАЯ.**

У студзені 1987 года заснаваны Саюз тэатральных дзеячаў БССР—новая творчая арганізацыя, закліканая актыўна ўплываць на ўдасканаленне ідэйна-мастацкага ўзроўню сцэнічнага мастацтва.

Праект Статута СТД БССР, які сёння друкуецца на старонках «ЛіМа», — важнейшы дакумент новага творчага саюза, і мы спадзяёмся, што ён будзе ўсебакова і зацікаўлена абмеркаваны тэатральнай грамадскасцю.

ПРЭЗІДЫУМ ПРАЎЛЕННЯ СТД БССР

ПРАЕКТ

# СТАТУТ

# Саюза тэатральных дзеячаў БССР

**Саюз тэатральных дзеячаў БССР утвораны 14 студзеня 1987 года VIII з'ездам БТА і з'яўляецца пераемцам Беларускага тэатральнага аб'яднання**

*РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ*

## МЭТЫ І ЗАДАЧЫ САЮЗА

I. Саюз тэатральных дзеячаў БССР (СТД БССР)—добраахвотная грамадская творчая арганізацыя, якая дзейнічае на дэмакратычных асновах самакіравання і публічнасці.

1. Мэтай Саюза з'яўляецца аб'яднанне дзеячаў тэатра на асновах камуністычных ідэалаў, метадаў сацыялістычнага рэалізму — мастацкай праўды, прынцыпаў творчай разнастайнасці, развіцця і абнаўлення лепшых традыцый беларускай, шматнацыянальнай савецкай і сусветнай тэатральнай культуры.

Саюз падтрымлівае праўдзівыя, таленавітыя, ідэйна значныя творы тэатра, звернутыя да лёсу чалавека і лёсу народа; садзейнічае ўмацаванню ў сцэнічным мастацтве духу партыйнасці, сацыяльнай актыўнасці, якія дапамагаюць сцвярджаць і ў жыцці, і ў творчасці новае, сумленнае, перадавое і змагацца з руцінай, коснасцю, застоем, якія тармозяць рух грамадства наперад.

2. Саюз сумесна з дзяржаўнымі органамі кіравання культурай удзельнічае ў кіраўніцтве творчай дзейнасцю тэатраў і іншых арганізацый, звязаных з тэатральным мастацтвам, аказвае работнікам тэатра прафесійную, прававую і сацыяльна-бытавую дапамогу.

Саюз прымае ўдзел у супрацоўніцтве з тэатральнымі арганізацыямі і дзеячамі тэатра замежных краін, прапагандуе дасягненні савецкага тэатральнага мастацтва, адстойвае справу міру, дэмакратыі і сацыяльнага прагрэсу, сцвярджае агульначалавечыя ідэалы і каштоўнасці. Саюз тэатральных дзеячаў БССР, з'яўляючыся састаўной часткай Саюза тэатральных дзеячаў СССР, вядзе сваю работу ў цесным узаемадзеянні з тэатральнымі саюзамі братніх рэспублік СССР, а таксама з іншымі творчымі саюзамі краіны.

3. У кампетэнцыю Саюза ўваходзяць:

— пытанні ўсебаковага развіцця тэатральнага мастацтва, узаемаўзбагачэння нацыянальных тэатральных культур;

— вывучэнне і фарміраванне грамадскай думкі па пытаннях тэатральнага жыцця ў рэспубліцы;

— абарона аўтарскіх і выканальніцкіх правоў, забеспячэнне неабходных умоў творчай працы і жыцця тэатральных дзеячаў Беларускай ССР;

— распрацоўка і эксперыментальная праверка новых форм арганізацыі тэатральнай справы.

4. Саюз тэатральных дзеячаў БССР у выпадку неабгрунтаваных ці некампетэнтных кіраўнічых рашэнняў у галіне тэатральнай справы прыпыняе іх ажыццяўленне адпаведна з існуючым заканадаўствам. Саюз сумесна з дзяржаўнымі органамі кіраўніцтва культурай і работнікамі тэатраў рэгулярна заслухоўвае справаздачы выбраных і прызначаных кіраўнікоў Саюза і органаў кіраўніцтва культурай, ацэньвае іх дзейнасць і ў неабходных выпадках ставіць пытанне аб вызваленні работнікаў, якія не спраўляюцца са сваімі абавязкамі ці скампраметавалі сябе.

II. Для рэалізацыі сваіх мэт і задач Саюз тэатральных дзеячаў БССР:

1. Удзельнічае ў вырашэнні пытанняў і выпрацоўвае рэкамендацыі:

— па рабоце рэпертуарна-рэдакцыйных калегій органаў кіраўніцтва культурай, дзяржаўных заказах на драматычныя і музычна-драматычныя творы;

— па назначэннях і атэстацыі кіруючых кадраў тэатраў, тэатральных навучальных устаноў і іншых арганізацый, звязаных са сцэнічным мастацтвам, падрыхтоўцы кадравага рэзерву і павышэнні кваліфікацыі работнікаў тэатраў;

— па размеркаванні дзяржаўнай датацыі і рэсурсаў у сферы тэатральнага мастацтва.

2. Вызначае асноўныя напрамкі арганізацыі тэатральнага працэсу:

— развіццё прынцыпаў дэмакратызму і самакіравання ў жыцці тэатральных калектываў;

— фарміраванне творчых складаў тэатраў з улікам патрэб і перспектыў развіцця тэатральнага мастацтва, мастацкай мэтазгоднасці, сацыяльнай і маральнай справядлівасці, творчых інтарэсаў акцёраў, рэжысёраў і іншых тэатральных дзеячаў;

— удасканаленне арганізацыі і кіравання тэатральнай справай.

3. Забяспечвае аб'ектыўную ацэнку з'яў тэатральнага мастацтва, стану і перспектыў развіцця тэатральных калектываў БССР.

Садзейнічае развіццю тэатральнай крытыкі, усіх яе форм і жанраў, сцвярджае ў ёй высокі прафесіяналізм, дух павагі да людзей тэатра, вынікаў іх творчай працы, клапоціцца аб тым, каб у сферы крытыкі абарона таленту спалучалася з мастацкай патрабавальнасцю і партыйнай прынцыповасцю.

4. Аказвае дзеячам тэатра і тэатральным калектывам усебаковую дапамогу ў іх прафесійным удасканаленні. З гэтай мэтай:

— арганізуе лабараторыі і семінары па пытаннях тэорыі і практыкі сцэнічнага мастацтва;

— накіроўвае спецыялістаў для прагляду і абмеркаванняў спектакляў, вывучэння вопыту работы тэатраў і аказання ім творчай і метадычнай дапамогі;

— прадастаўляе тэатральным дзеячам творчыя камандзіроўкі для знаёмства з дасягненнямі ў галіне сцэнічнага мастацтва Савецкага Саюза і замежных краін.

5. Усведамляючы вялікую адказнасць перад будучыняй тэатра, неабходнасць пастаяннага прытоку свежых творчых сіл, барацьбы з руцінай і застоем, Саюз звяртае асаблівую ўвагу на работу з творчай моладдзю, усямерна садзейнічае яе ідэйнаму, прафесійнаму, грамадзянскаму і маральнаму станаўленню.

6. Стварае эксперыментальныя тэатральныя калектывы і дапамагае студыйнаму тэатральнаму руху.

7. Садзейнічае шэфскім сувязям тэатральных калектываў з працоўнымі горада і вёскі, воінамі Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, навучэнцамі школ, прафтэхвучылішчаў, ВНУ і тэхнікумаў, аказвае творчую дапамогу народным тэатрам, калектывам тэатральнай самадзейнасці, спрыяе развіццю масавых форм тэатральнага мастацтва.

8. Кіруе работай Бюро прапаганды тэатральнага мастацтва.

9. Ажыццяўляе выдавецкую дзейнасць, накіраваную на абагульненне і прапаганду творчага вопыту беларускага, шматнацыянальнага савецкага і замежнага тэатраў, публікацыю твораў драматургіі, вынікаў даследаванняў у галіне гісторыі і тэорыі тэатра, эканомікі, сацыялогіі і арганізацыі тэатральнай справы, тэатральнай крытыкі і тэатразнаўства.

10. Вылучае дзеячаў тэатра на атрыманне Ленінскай і Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, прысваенне ганаровых званняў, прызначэнне персанальных пенсій.

11. У супрацоўніцтве з Усесаюзным агенцтвам па аўтарскіх правах кантралюе захаванне аўтарскіх і выканальніцкіх правоў стваральнікаў спектакля. Прадстаўляе і абараняе інтарэсы акцёраў, рэжысёраў, усіх дзеячаў тэатра, чыя творчая праца выкарыстоўваецца кінематографам, студыямі гуказапісу, радыё, тэлебачаннем, іншымі сродкамі масавай інфармацыі.

12. Адкрывае і ўтрымлівае дамы акцёраў, палацы работнікаў мастацтваў, творчыя клубы, бібліятэкі, музеі, выстаўкі, санаторыі, дамы творчасці, лячэбныя ўстановы, пансіянаты, дачы, інтэрнаты, яслі, дзіцячыя сады, піянерскія лагеры, базы адпачынку, турыстычныя лагеры, прадпрыемствы грамадскага харчавання.

13. Прадастаўляе членам Саюза і членам іх сем'яў пуцёўкі ў здраўніцы, дамы адпачынку і дамы творчасці Саюза і дзіцячыя ўстановы, устанаўліваючы для іх ільготы па аплаце.

14. Аказвае членам Саюза матэрыяльную дапамогу, выдае пазыкі, арганізуе касы ўзаемадапамогі.

15. Сумесна з Міністэрствам культуры БССР кіруе інфармацыйна - кансультацыйнай службай працаўладкавання сцэнічных работнікаў.

Садзейнічае працаўладкаванню тэатральных дзеячаў, якія страцілі магчымасць працаваць па спецыяльнасці.

16. Клапоціцца пра ветэранаў тэатральнага мастацтва, стварае і ўтрымлівае дамы ветэранаў сцэны, арганізуе работу секцый ветэранаў на месцах.

17. Ажыццяўляе мерапрыемствы па ўшанаванні памяці выдатных тэатральных дзеячаў.

*РАЗДЗЕЛ ДРУГІ*

## АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ БУДОВА САЮЗА

1. Вышэйшым органам Саюза тэатральных дзеячаў БССР з'яўляецца з'езд, які склікаецца адзін раз у пяць гадоў.

2. Рашэнне аб скліканні чарговага з'езда прымаецца пленумам праўлення Саюза не пазней, чым за шэсць месяцаў да пачатку работы з'езда. Нечарговы з'езд можа быць скліканы па рашэнні праўлення, рэвізійнай камісіі ці па патрабаванні не менш палавіны мясцовых арганізацый Саюза.

3. Норма прадстаўніцтва на з'езд вызначаецца праўленнем Саюза. Дэлегаты выбіраюцца тайным галасаваннем на канферэнцыях, сходах мясцовых арганізацый Саюза.

4. **З'езд тэатральных дзеячаў БССР:**

— абмяркоўвае важнейшыя праблемы развіцця тэатральнага мастацтва ў рэспубліцы;

— вызначае перспектыўныя задачы дзейнасці Саюза; зацвярджае статут і ў неабходных выпадках уносіць у яго папраўкі і змены;

— зацвярджае справаздачы праўлення і рэвізійнай камісіі Саюза;

— вызначае колькасны склад і структуру праўлення, рэвізійнай камісіі і выбірае іх тайным галасаваннем.

Абранымі лічацца кандыдаты, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў, але не менш за 50 працэнтаў тых, хто прымаў удзел у галасаванні.

5. Кіруючым органам Саюза ў перыяд паміж з'ездамі з'яўляецца праўленне Саюза. Пленум праўлення склікаецца не радзей за два разы ў год.

6. **Праўленне Саюза:**

— вызначае колькасны склад прэзідыума і сакратарыята, выбірае адкрытым галасаваннем простай большасцю галасоў, пры ўмове ўдзелу ў галасаванні не менш за 2/3 членаў праўлення, прэзідыум, старшыню і сакратароў праўлення Саюза;

— вызначае шляхі ажыццяўлення рашэнняў з'езда Саюза;

— кіруе дзейнасцю арганізацый Саюза на месцах;

— кіруе работай тэатральнага фонду, асноўнай задачай якога з'яўляецца стварэнне неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай і фінансавай базы для забеспячэння арганізацыйна-творчай і сацыяльна-бытавой дзейнасці Саюза. Работа тэатральнага фонду ўзначальваецца праўленнем і рэгулюецца спецыяльным палажэннем;

— разглядае штогадовыя справаздачы прэзідыума аб яго дзейнасці;

— уносіць у дзяржаўныя органы прапановы па развіцці тэатральнай справы.

7. Выканаўчым органам праўлення Саюза з'яўляецца яго **прэзідыум.** У перыяд паміж пленумамі праўлення прэзідыум з'яўляецца кіруючым органам і збіраецца не радзей чым 1 раз у 2 месяцы.

**Сакратарыят** на чале са старшынёй праўлення Саюза:

— кіруе штодзённай дзейнасцю апарату прэзідыума праўлення Саюза, рыхтуе пасяджэнні праўлення і прэзідыума;

— прызначае і зацвярджае кіруючых работнікаў апарату Саюза;

— накіроўвае і арганізуе работу Саюза ў адпаведнасці са статутам і рашэннямі з'езда і пленумаў праўлення;

— кіруе ідэйна-творчай, сацыяльна-бытавой, арганізацыйнай, вытворча-гаспадарчай і фінансавай дзейнасцю Саюза, а таксама работай яго арганізацый на месцах і ажыццяўляе кантроль за іх дзейнасцю;

— сумесна з дзяржаўнымі органамі кіраўніцтва культурай удзельнічае ў развіцці тэатральнай справы і мае права ў неабходных выпадках прыпыняць кіраўнічыя рашэнні;

— засноўвае і прысуджае прэміі Саюза за выдатныя дасягненні ў галіне тэатральнага мастацтва;

— кіруе дзейнасцю рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтваў;

— стварае па асноўных напрамках творчай дзейнасці пастаянныя камісіі і творчыя секцыі.

Старшыні камісій і секцый зацвярджаюцца прэзідыумам.

8. Рашэнні праўлення, прэзідыума і сакратарыята прымаюцца адкрытым галасаваннем большасцю галасоў прысутных і даводзяцца да ведама мясцовых арганізацый Саюза і шырокай тэатральнай грамадскасці.

9. Пры прэзідыуме Саюза дзейнічае **канфліктная камісія па творчых пытаннях.**

Камісію зацвярджае прэзідыум праўлення Саюза. Задачай камісіі з'яўляецца разгляд найбольш складаных творчых спрэчак, якія ўзнікаюць на глебе прафесійнай дзейнасці, і іх вырашэнне з улікам вышэйшых інтарэсаў мастацтва і грамадства.

Камісія прымае да разгляду заявы членаў Саюза, яго мясцовых арганізацый, тэатраў і органаў кіраўніцтва культурай па канфліктах, звязаных з парушэннем аўтарскіх і выканальніцкіх правоў, некампетэнтных, суб'ектывісцкіх і адміністрацыйных умяшальніцтвах у творчы працэс з боку органаў кіраўніцтва, работнікаў тэатраў, сродкаў масавай інфармацыі і г. д. Пытанне можа быць унесена ў камісію і па ініцыятыве прэзідыума Саюза.

Камісія разглядае таксама канфлікты паміж дзеячамі тэатра, якія ўзнікаюць у працэсе творчай работы і звязаны з абаронай іх асабістага гонару і прафесійнай годнасці.

Рашэнні камісіі зацвярджаюцца прэзідыумам.

Заявы аб творчых спрэчках могуць быць пададзены ў кіраўніцтва мясцовых арганізацый Саюза, якія ў гэтых выпадках прымаюць на сябе ўказаныя вышэй функцыі канфліктнай камісіі.

Камісія ў выпадку мэтазгоднасці можа накіроўваць заявы па творчых канфліктах на месцы для іх вырашэння кіраўніцтвам мясцовых арганізацый Саюза або тэатральнымі калектывамі.

Рашэнні камісіі, зацверджаныя прэзідыумам, з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх членаў Саюза. Іх невыкананне цягне за сабой розныя спагнанні, ажно да выключэння з Саюза.

Камісія працуе на аснове палажэння, зацверджанага пленумам праўлення Саюза.

10. Рэвізійная камісія выбірае са свайго складу адкрытым галасаваннем старшыню, яго намесніка і сакратара.

Рэвізійная камісія трымае справаздачу аб сваёй дзейнасці перад з'ездам Саюза. Пасяджэнні камісіі праводзяцца не радзей чым два разы ў год.

11. **Рэвізійная камісія:**

— кантралюе выкананне статута Саюза, рашэнняў з'ездаў;

— правярае выкананне планаў творчай дзейнасці Саюза;

— сумесна з бухгалтарам-рэвізорам Саюза праводзіць рэвізіі і ажыццяўляе кантроль фінансава-гаспадарчай дзейнасці апарату Саюза, тэатральнага фонду, прадпрыемстваў і арганізацый Саюза;

— арганізуе комплексныя рэвізіі;

— аказвае метадычную дапамогу рэвізійным камісіям мясцовых арганізацый і правярае іх работу;

— кантралюе работу апарату Саюза і яго падраздзяленняў;

— правярае разгляд запытаў, пісьмаў і скаргаў членаў Саюза, дамагаючыся справядлівага і своечасовага іх вырашэння;

— накіроўвае ў неабходных выпадках прэзідыуму праўлення заключэнні па праверках і рэвізіях для прыняцця належных мер.

12. Члены рэвізійнай камісіі прымаюць удзел у пленумах праўлення, пасяджэннях прэзідыума з правам дарадчага голасу.

13. Мясцовыя арганізацыі Саюза ствараюцца рашэннем прэзідыума праўлення Саюза ў абласцях і гарадах абласнога падпарадкавання пры наяўнасці не менш чым 30 членаў Саюза.

14. Кіруючымі органамі мясцовых арганізацый Саюза з'яўляюцца абласныя канферэнцыі, сходы, якія склікаюцца не радзей за два разы ў пяцігадовы перыяд паміж з'ездамі Саюза.

15. **Канферэнцыя:**

— абмяркоўвае творчыя і арганізацыйныя праблемы развіцця тэатральнай справы ў вобласці;

— вызначае асноўныя напрамкі і канкрэтныя формы работы праўленняў мясцовых арганізацый Саюза па паляпшэнні арганізацыйна-творчай дзейнасці тэатраў;

— заслухоўвае справаздачы праўлення і рэвізійнай камісіі і дае ацэнку іх рабоце;

— выбірае тайным галасаваннем дэлегатаў на з'езд тэатральных дзеячаў БССР па нормах, вызначаных пленумам праўлення СТД БССР;

— вызначае колькасны склад праўлення і рэвізійнай камісіі мясцовай арганізацыі, выбірае іх тайным галасаваннем. Выбранымі лічацца кандыдаты, якія атрымалі большасць галасоў, але не менш чым 50 працэнтаў тых, хто прымаў удзел у галасаванні.

16. **Праўленне мясцовай арганізацыі:**

— выбірае адкрытым галасаваннем большасцю галасоў старшыню і намесніка старшыні праўлення, сакратара;

— кіруе работай прафесійных творчых аб'яднанняў і секцый пры іх наяўнасці;

— вырашае пытанні прыёму ў члены Саюза і выключэння з яго тэатральных дзеячаў;

— будуе сваю работу ў цесным узаемадзеянні з тэатральнымі калектывамі, іх мастацкімі саветамі і грамадскімі арганізацыямі;

— у неабходных выпадках ставіць перад прэзідыумам праўлення СТД БССР пытанні аб прыпыненні некампетэнтных кіраўнічых рашэнняў у галіне тэатральнага мастацтва;

— клапоціцца аб ідэйна-маральным і прафесійным станаўленні маладых спецыялістаў, іх творчым лёсе;

— прадстаўляе праўленню і прэзідыуму Саюза ва ўстаноўленым парадку планы работы, каштарысы і справаздачы аб творчай і фінансавай дзейнасці, а таксама прапановы аб прысваенні ганаровых званняў, узнагародах, персанальных прэміях;

— распараджаецца грашовымі, матэрыяльнымі сродкамі і маёмасцю арганізацыі.

**Заўвага.** У арганізацыях, якія налічваюць больш за 200 членаў, можа быць выбрана бюро праўлення.

17. **Рэвізійная камісія мясцовай арганізацыі Саюза:**

— выбірае адкрытым галасаваннем старшыню і намесніка старшыні камісіі;

— штогод праводзіць рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасці арганізацыі, кантралюе выдаткаванне і захаванне сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцей, перадае мясцовай арганізацыі і рэвізійнай камісіі СТД БССР заключэнні па праведзеных рэвізіях і праверках;

— выконвае функцыі, выкладзеныя ў раздзеле статута, якi вызначае абавязкі рэвізійнай камісіі СТД БССР.

Старшыня і намеснік старшыні рэвізійнай камісіі прымаюць удзел у пасяджэннях праўлення мясцовай арганізацыі Саюза з правам дарадчага голасу.

*РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ*

## ЧЛЕНЫ САЮЗА. ІХ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ

1. Членам Саюза можа стаць тэатральны дзеяч, які прызнае статут Саюза і мае стаж работы ў галіне сцэнічнага мастацтва не менш чым тры гады. Член Саюза павінен адпавядаць высокім прафесійным, грамадзянскім і этычным патрабаванням, садзейнічаць асабістай творчай працай сцвярджэнню лепшых мастацкіх і маральных ідэалаў тэатральнага мастацтва, актыўна ўдзельнічаць у рабоце адной з арганізацый Саюза.

2. Членамі Саюза могуць быць:

артысты драмы (артысты драматычных тэатраў, тэатраў юнага гледача, тэатраў лялек), артысты музычных тэатраў (салісты-вакалісты, артысты балета, аркестра, хору), рэжысёры (галоўныя, рэжысёры-пастаноўшчыкі), балетмайстры і дырыжоры музычных тэатраў (галоўныя, дырыжоры-пастаноўшчыкі, балетмайстры-пастаноўшчыкі), мастакі (галоўныя, мастакі-пастаноўшчыкі), драматургі, тэатразнаўцы, тэатральныя крытыкі, педагогі па ўсіх спецыяльнасцях, звязаных з тэатральным мастацтвам, памочнікі галоўных рэжысёраў па літаратурнай частцы, загадчыкі музычнымі часткамі, хормайстры музычных тэатраў, канцэртмайстры і рэпецітары тэатраў (па класах вакалу, балета), дырэктары тэатраў, дырэктары-распарадчыкі, намеснікі дырэктараў, загадчыкі мастацка-пастановачнымі часткамі, навуковыя работнікі ў галіне эканомікі, сацыялогіі тэатра, арганізацыі тэатральнай справы.

**Заўвага.** Членамі Саюза могуць быць таксама прадстаўнікі іншых тэатральных прафесій, якія сваёй творчай працай унеслі важкі ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва і атрымалі прызнанне тэатральнай грамадскасці.

3. Прыём у члены Саюза праводзіцца праўленнем мясцовай арганізацыі па рэкамендацыі мастацкага творчага аб'яднання ці секцыі. Рашэнне аб прыёме разглядаецца камісіяй па прыёме і зацвярджаецца прэзідыумам праўлення СТД БССР.

4. **Камісія па прыёме ў члены Саюза** ствараецца рашэннем прэзідыума і ўзначальваецца сакратаром Саюза.

5. Той, хто ўступае ў члены Саюза, прадстаўляе:

а) заяву ў праўленне мясцовай арганізацыі Саюза ці камісію па прыёме;

б) тры рэкамендацыі:
— творчага аб'яднання ці секцыі;

— мастацкага савета тэатра (для тых, хто працуе ў тэатры);

— члена Саюза са стажам знаходжання ў Саюзе не менш чым пяць гадоў (для тых, хто не працуе ў тэатры, неабходны дзве асабістыя рэкамендацыі).

**Заўвага.** Сакратары праўлення СТД БССР устрымліваюцца ад рэкамендацый уступаючым у члены Саюза.

6. Асобы, прынятыя ў члены Саюза, атрымліваюць членскі білет і значок.

7. Члены Саюза плацяць уступны ўзнос і штогадовыя членскія ўзносы. Памеры ўзносаў вызначаюцца праўленнем Саюза.

8. Адмова ў прыёме ў члены Саюза можа быць абскарджана:

— у выпадку адмовы праўлення мясцовай арганізацыі — у камісію па прыёме;

— у выпадку адмовы камісіі па прыёме — у прэзідыум праўлення Саюза.

Абскардзіць адмову ў прыёме можа як сам уступаючы, так і асобы і арганізацыі, якія яго рэкамендавалі.

Рашэнне прэзідыума па пытанні аб прыёме ў члены Саюза з'яўляецца канчатковым.

9. Член Саюза мае права:

— выбіраць і быць абраным у кіруючыя органы Саюза;

— уносіць у адпаведныя органы Саюза прапановы па паляпшэнні работы Саюза і падведамасных яму арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў;

— карыстацца ўсімі відамі творчай, кансультацыйнай, прававой і метадычнай дапамогі, якая прадастаўляецца Саюзам;

— карыстацца сацыяльна-бытавой дапамогай і ўстаноўленымі льготамі;

— звяртацца ў канфліктную камісію па творчых пытаннях і ў іншыя органы Саюза па ўсіх праблемах, звязаных з абаронай прафесійных правоў і вынікаў творчай дзейнасці.

10. Член Саюза абавязаны:
— захоўваць статут Саюза;
— выконваць рашэнні кіруючых органаў Саюза;
— актыўна ўдзельнічаць у рабоце Саюза і выконваць грамадскія даручэнні яго выбарчых органаў;
— садзейнічаць асабістай працай развіццю тэатральнага мастацтва, сцвярджэнню ў ім жыццёвай праўды, гуманізму і творчай разнастайнасці;
— усёй сваёй творчай дзейнасцю адстойваць і развіваць высокія этычныя традыцыі савецкага і сусветнага сцэнічнага мастацтва, зжываць у сваім асяроддзі прэм'ерства, хлусню, крывадушша, угодніцтва, камплiментарнасць, групаўшчыну, любыя праявы нацыяналізму і шавінізму.

11. За парушэнне патрабаванняў статута да члена Саюза могуць быць прыменены меры пакарання:
— грамадскае спагнанне;
— вымова;
— строгая вымова.

Спагнанні накладаюцца праўленнем мясцовай арганізацыі або прэзідыумам праўлення Саюза.

12. Выключэнне з Саюза адбываецца ў выпадках:
— здзяйснення ўчынкаў антыграмадскага і амаральнага характару;
— здзяйснення ўчынкаў, якія прыніжаюць гонар і годнасць дзеяча тэатра;
— працяглай творчай бяздзейнасці, не звязанай з хваробай, выхадам на пенсію ці якой-небудзь іншай важкай прычынай;
— няўплаты членскіх узносаў на працягу года.

13. Выключэнне з Саюза праводзіцца тымі ж органамі, якім прадастаўлена права прыёму. Пастанова аб выключэнні можа быць абскарджана ў прэзідыум Саюза тэатральных дзеячаў, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым.

14. Выключаныя з Саюза могуць зноў уступіць у яго на агульных падставах пасля трохгадовага тэрміну.

15. Рашэнні аб спагнаннях і выключэнні з Саюза даводзяцца да ведама тэатральнай грамадскасці праз друкаваныя органы Саюза.

*РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ*

## СРОДКІ САЮЗА

Сродкі Саюза ўтвараюцца з:
— уступных і членскіх узносаў;
— адлічэнняў ад прыбыткаў прадпрыемстваў і арганізацый Саюза;
— ільгот ад падаткаў з абароту прадпрыемстваў Саюза;
— іншых адлічэнняў і льгот, якія могуць быць атрыманы Саюзам ва ўстаноўленым парадку;
— іншых паступленняў ад грамадзян і арганізацый.

*РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ*

## ЮРЫДЫЧНЫЯ ПРАВЫ САЮЗА І ЯГО МЯСЦОВЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

1. Саюз тэатральных дзеячаў БССР і яго мясцовыя арганізацыі карыстаюцца правамі юрыдычнай асобы з усімі вынікамі на падставе дзеючых у СССР і ў БССР законаў, у тым ліку:

— набываць і адчужаць маёмасць, заключаць дагаворы, ствараць гаспадарча-разліковыя прадпрыемствы, якія адпавядаюць мэтам статута Саюза, карыстацца крэдытам, ствараць бягучы і разліковы рахункі ў банках;

— прад'яўляць іск і адказваць па исках у судах і дзяржаўных арбітражах.

2. Даверанасці, дагаворы, фінансавыя і іншыя дакументы ад імя Саюза падпісваюцца старшынёй праўлення, галоўным бухгалтарам і асобамі, упаўнаважанымі на тое сакратарыятам праўлення Саюза.

3. Даверанасці, дагаворы і іншыя дакументы арганізацый Саюза на месцах падпісваюцца старшынёй праўлення і бухгалтарам мясцовай арганізацыі і асобамі, упаўнаважанымі на гэта праўленнем мясцовай арганізацыі.

4. Праўленне Саюза ці яго прэзідыум выносяць рашэнні аб стварэнні і ліквідацыі арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў сістэмы Саюза, зацвярджаюць Палажэнні аб іх, ствараюць па ўстаноўленым парадку рэзерв для аказання часовай фінансавай дапамогі прадпрыемствам і арганізацыям Саюза.

5. Саюз мае пячатку і штамп. Арганізацыі Саюза маюць пячатку і штамп з адпаведнай назвай.

6. Дзейнасць Саюза тэатральных дзеячаў БССР можа быць спынена па рашэнні з'езда. Усе сродкі і маёмасць, што засталіся пасля ліквідацыі Саюза, перадаюцца дзяржаўным органам ці грамадскім арганізацыям рашэннем з'езда.

## Казімір Аляксеевіч ШЫШКІН



**Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 1 сакавіка 1987 года на 73-ім годзе жыцця памёр член КПСС з 1949 года, артыст Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага, народны артыст РСФСР Казімір Аляксеевіч Шышкін.**

**К. А. Шышкін нарадзіўся 8 лістапада 1914 года ў сяле Высокае Разанскай вобласці. Пасля заканчэння ў 1937 годзе Цэнтральнага маскоўскага тэатральнага вучылішча працаваў у тэатрах Хабараўска, Паўднёва-Сахалінска, Казані і Тулы. З 1970 года і да апошніх дзён жыцця яго творчы лёс быў непарыўна звязаны з Дзяржаўным рускім драматычным тэатрам БССР імя М. Горкага. На сцэне гэтага тэатра К. А. Шышкін стварыў яркія, псіхалагічна дакладныя вобразы Ванюшына («Дзеці Ванюшына» С. Найдзёнава), Баляснікава («Казкі старога Арбата» А. Арбузава), Малахава («Апошняя інстанцыя» М. Матукоўскага), Шупені («Трывога» А. Петрашкевіча), караля Дункана («Макбет» У. Шэкспіра) і іншыя.**

**К. А. Шышкін актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. Неаднаразова выбіраўся сакратаром партыйнай арганізацыі і старшынёй прафсаюзнага камітэта тэатра імя М. Горкага.**

**Яго заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва адзначаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.**

**Светлая памяць пра Казіміра Аляксеевіча Шышкіна, таленавітага акцёра, камуніста і грамадзяніна, назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.**

**В. А. Пачэннікаў, Н. М. Мазай, І. І. Антановіч, Ю. М. Міхневіч, У. Р. Галко, У. І. Міхасёў, М. М. Яроменка, Э. І. Герасімовіч, В. В. Маслюк, А. І. Клімава, Р. І. Янкоўскі, Ю. У. Сідараў.**

## «Мастацтва Беларусі» № 2

**Артыкул Л. Салавей «Дыялог на мове мастацтва» — аб пашырэнні сувязей Беларусі з замежнымі краінамі.**

**Е. Бондарава («Месца дзеяння — граніца»), Н. Фральцова («Дзіцячы партрэт без сямейнага інтэр'ера») — разважаюць пра новыя фільмы.**

**Творчы партрэт Л. Асядоўскага напісаў Л. Дробаў — «Подых легендарных гадоў»; праблеме захавання народнага меласу прысвечаны артыкул Д. Янанюка «Музычнае радыёвяшчанне сёння»; развагі пра эстэтычнае выхаванне ў артыкуле М. Купавы «Аснова — родная культура».**

**Музычнае жыццё асвятляюць Т. Якіменка («Думаць, шукаць, дзейнічаць...»), Д. Падбярэзскі («Нечаканыя павароты чорнага дыска»), Т. Рогач («Сем дзён музыкі»); пра асаблівасці развіцця сучаснага народнага мастацтва разважаюць Я. Сахута («Новы ўзровень старых традыцый»), А. Макараў («У сааўтарстве з прыродай»).**

**Сярод аўтараў — Г. Алісейчык («Час дэбютаў і дэбютантаў»), В. Навуменка («Адстойваючы дасягнутае»), М. Пшанічны («Крынічныя струны»), Л. Шылава («Чалавек буйным планам»), У. Мальцаў («...Апроч чалавечай памяці...») і А. Марціновіч («Напачатку заўсёды п'еса»).**

**У. Пузыня прапагуе размову пра выраб народных музычных інструментаў.**

# Замацаваць традыцыю

**Думкі з нагоды адной гродзенскай выстаўкі**

У залах Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігій у Гродне працуе мастацкая выстаўка, прысвечаная 660-ай гадавіне гібелі Давыда Гарадзенскага, выдатнага палкаводца сярэднявечча, абаронцы нашага краю ад крыжацкай навалы. У ліку арганізатараў выстаўкі таксама Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, абласная арганізацыя Саюза мастакоў БССР, абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы, абласны савет таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Яшчэ да нядаўняга часу перыяд XIII—XV стагоддзяў лічыўся «белай плямай» у нашай гісторыі. Зараз, дзякуючы намаганням навукоўцаў, літаратараў, мастакоў, многае пачынае праясняцца. Сёння мы ведаем аднаго з герояў гэтага часу — Давыда Гарадзенскага.

**Бацькам Давыда быў князь Даўмонт, які ў 1266 годзе пасля забойства Міндоўга ўцёк з Літвы (маецца на ўвазе гістарычная Літва — сучасная Беларусь) у Пскоў, прыняў праваслаўную веру і хрысціянскае імя.**

**У 1282 годзе адбываецца шлюб Даўмонта з унучкай ноўгарадскага князя Аляксандра Неўскага Марыяй Дзмітрыеўнай. Ад гэтага шлюбу і нарадзіўся Давыд, якога пскавічы лічылі сваім патомным князем. Але ў гісторыю ён увайшоў пад імем Давыда Гарадзенскага. Бо лёс звязаў яго таксама са старажытнай Гародняй, Панямоннем, куды ён прыехаў у маладосці. Давыд Гарадзенскі прымаў удзел у паходах вялікага князя Літоўскага Гедыміна на крыжакоў, праявіў сябе мужным рыцарам, за што неўзабаве атрымаў руку княжны Біруты, дачкі Гедыміна, і стаў кашталянам Гарадзенскага замка—фарпоста ў барацьбе з крыжакамі. Давыд паспяхова адбіваў напады крыжакоў у 1305 і 1306 гадах. Слаўную перамогу атрымаў ён пад Навагародкам у 1314 годзе. У 1322—1323 гг. ён дапамагае пскавічам адбіць крыжацкі напад. Не могучы справіцца з ім у адкрытым баі, крыжакі падкупілі польскага рыцара Анджэя Госта, які па-здрадніцку ў спіну забіў Давыда Гарадзенскага каля Франкфурта-на-Одэры ў 1326 г.**



А. СТУПЕНЬ. «На крыжакоў. Давыд Гарадзенскі». 1986.

Вось такі мужны і кароткі лёс гэтага легендарнага палкаводца, гадавіну гібелі якога вырашылі адзначыць гарадзенцы. Ініцыятарам стаў вядомы гісторык, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта М. Ткачоў. Яго ідэю падхапілі як аматары мастацтва, так і мастакі-прафесіяналы Гродна і Мінска, супрацоўнікі гродзенскіх музеяў. Экспазіцыя выстаўкі мае камерны, але вельмі эмацыянальны і змястоўны характар.

Удзельнікам выстаўкі давялося быць першаадкрывальнікамі аблічча героя, на якое неспакойны і драматычны час наклаў свой адбітак. Цікавыя трактоўкі вобраза Давыда Гарадзенскага прадставілі на суд гледачоў А. Дранец, В. Янушкевіч, А. Ступень, А. Шунейка, Я. Шунейка.

Адчуць подых гісторыі дазваляюць помнікі даўніх часоў. Гэта архітэктурны і гістарычны ландшафты, элементы народнага побыту і этнаграфіі. Рэаліі мінулага як своеасаблівы сімвал адвечнага паўстаюць у краявідах Р. Батальёнка, В. Свістунова, П. Сычова, М. Купавы. Этнаграфічныя матывы знайшлі сваё адлюстраванне ў рабоце В. Свентахоўскай, у гістарычна-асацыятыўных аркушах А. Багустава, А. Панцюка, С. Кічко, А. Аўчыннікава, М. Скляра.

Актыўны ўдзел у выстаўцы прынялі гродзенскія мастакі-аматары — жывапісцы, разьбяры, прыкладнікі. Пра гэта сведчыць жывапіс П. Талочкі і А. Салаўёва, разьба па дрэве В. Разанкі і Г. Карпюка, медалі А. Храмкова і І. Саўко, ужытковая пластыка Л. Нанія і В. Атрашкевіча. Буйны макет Гродзенскага замка XV ст. і сядзібы гараджаніна ў занёманскай частцы Гародні XVI ст. выканаў на падставе гравюр і іншых гістарычных крыніц малады рабочы Гродзенскай мэблевай фабрыкі Г. Зарахoвіч. Па матэрыялах даследаванняў М. Ткачова рэканструкцыі ўзбраення беларускіх вояў XV—XVIII стст. зрабіў У. Кіслы.

Замыкае экспазіцыю жывапіснае палатно Г. Вашчанкі «Грунвальдская бітва» (*хоць яно — у пастаяннай* экспазіцыі музея). Твор адлюстроўвае вялікую перамогу славянства над крыжакамі, барацьбе з якімі прысвяціў сваё жыццё Давыд Гарадзенскі.

*Упершыню з фондаў абласнога* музея былі прадстаўлены як вялікі раздзел выстаўкі археалагічныя знаходкі X—XIII стст. на тэрыторыі Гродна і Гродзеншчыны. Сярод іх мячы, сякеры, шпоры і іншы рыштунак коннікаў, гусарскія кірасы XVII ст., шлем-штурмак XVI ст. і г. д.

Гродзенскія гістарычныя выстаўкі 1981—1986 — гэта ўжо моцная традыцыя. Яны прысвячаліся юбілеям Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Казіміра Лышчынскага, «Песні пра зубра», «Слову пра паход Ігаравы». Гэта традыцыя падтрымана Заслаўем і Полацкам, дзе таксама адбываліся мастацкія выстаўкі, прысвечаныя культурна-гістарычнай спадчыне. Яе варта развіваць і надалей. Гродна можа і нават павінна стаць месцам правядзення штогодніх рэспубліканскіх выставак на гістарычную тэматыку.

Цяпер, калі стаіць пытанне аб рэстаўрацыі і рэгенерацыі гістарычнай забудовы горада, можна спадзявацца, што з часам у адным з рэстаўрыраваных будынкаў размесціцца выставачная зала абласнога аддзялення Саюза мастакоў. Сучасная зала на першым паверсе стандартнай «пяціпавярхоўкі» на вуліцы Ажэшка гонару гораду не робіць.

Вопыт правядзення рэспубліканскіх выставак за межамі сталіцы ўжо ёсць: не так даўно ў Полацку з поспехам праходзіла выстаўка акварэлі і малюнка.

Для ўспрымання гісторыі патрэбна адпаведнае паветра, адпаведнае асяроддзе. Гродну, у адрозненне ад іншых гістарычных гарадоў рэспублікі, пашчасціла захаваць у асноўных рысах свой воблік. Гэта, мабыць, адзіны ў рэспубліцы музей архітэктуры пад адкрытым небам. Афіцыйнае зацвярджэнне за горадам штогодняй мастацкай выстаўкі на гістарычную тэматыку (а можа, і іншых мерапрыемстваў рэспубліканскага ўзроўню) надавала б другое жыццё яго архітэктурным каштоўнасцям, спрыяла б больш актыўнаму ўключэнню горада і рэгіёна ў агульны культурны працэс.

**Віталь БОГУШ.**

А. ШУНЕЙКА. «Давыд і Бірута» (роспіс па тканіне). 1986.




**З 9 ПА 15 САКАВІКА**

**11 сакавіка, 17.10**

**«У КАНЦЭРТНАЙ ЗАЛЕ БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІІ». ДЖ. ПЕРГАЛЕЗІ**

Кантата «Стабат-матар». Выканаўцы: Мінскі камерны аркестр, хор Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі, салісты—лаўрэат Міжнароднага конкурсу А. Алабердыева і І. Курмангаліеў.

Дырыжор — лаўрэат Міжнароднага конкурсу А. Шароеў.

**11 сакавіка, 18.10**

**«СУГУЧЧА»**

Вы сустрэнецеся з героямі аповесці *выдатнага французскага пісьменніка* А. Камю «Падзенне», якую пераклаў З. Колас.

З уступным словам аб праблемах перакладу твораў замежных аўтараў на беларускую мову выступіць А. Асташонак.

**11 сакавіка, 21.45**

**У ТЭАТРАХ РЭСПУБЛІКІ. В. ДАЗОРЦАЎ «АПОШНІ НАВЕДВАЛЬНІК»**

Спектакль Гомельскага абласнога рускага драматычнага тэатра.

Уступнае слова кандыдата мастацтвазнаўства Р. Смольскага.

**12 сакавіка, 17.40**

**СПЯВАЕ НАРОДНАЯ АРТЫСТКА СССР С. ДАНІЛЮК**

У праграме арыі з опер Сен-Санса, Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава, Расіні.

**12 сакавіка, 18.10**

**«МОЙ РОДНЫ КУТ»**

Перадача прысвечана рэвалюцыйным, баявым і працоўным традыцыям жыхароў Рэчыцкага раёна.

Вядучы — пісьменнік У. Ліпскі.

**12 сакавіка, 20.05**

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА**

Выступаюць удзельнікі мастацкай самадзейнасці Брэсцкай вобласці.

**13 сакавіка, 17.10**

**ПАКАЗВАЕ ВІЦЕБСК. ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС «ДЗВІНА»**

Пра сваю працу ў тэатры расказвае народны артыст СССР Ф. Шмакаў. Затым віцебскі скульптар А. Гваздзікаў пазнаёміць са сваімі творамі. Убачыце вы і работы фотамайстра Г. Бяліцкага, асноўная тэма якіх — барацьба за мір.

Паэт А. Салтук падзеліцца сваімі думкамі пра ахову прыроды Прыдзвінскага краю.

На заканчэнне сустрэча з народным артыстам СССР кампазітарам М. Фрадкіным.

**13 сакавіка, 23.25**

**«НАКЦЮРН»**

Творы Баха, Карэлі прагучаць у выкананні ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле».

**14 сакавіка, 13.05**

**«СЛОВА— ПАЭЗІІ»**

Вершы А. Куляшова чытае артыст А. Гарцуеў.

**14 сакавіка, 17.05**

**«УСЕ ЖЫЦЦЕ ШУКАУ Я ШЧАСЦЕ...»**

Перадача прысвечана аднаму з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, пісьменніку другой паловы XIX *стагоддзя Яну Баршчэўскаму. У перадачы* выкарыстаны ўспаміны яго тагачасных крытыкаў Ю. Барташэвіча, Р. Падбярэзкага, М. Грабоўскага.

**14 сакавіка, 18.05**

**«ЗОРНЫ ДОЖДЖ»**

Музычная эстрадная праграма з удзелам папулярных артыстаў латвійскай эстрады.

**14 сакавіка, 23.00**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

На гэты раз у праграме знаёмыя мелодыі мінулых гадоў і сучасныя творы рок- музыкі. Адбудзецца таксама дыскусія па розных пытаннях развіцця эстраднага мастацтва.

Вядучы — журналіст А. Суша.

**15 сакавіка, 16.30**

**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»**

Пісьменнік П. Пруднікаў успамінае пра знаёмства з М. Зарэцкім, пра старонкі станаўлення беларускай савецкай літаратуры.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02080 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі—33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў —33-24-62, аддзела інфармацыі —33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.